

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 6(65) Чэрвень 1999 June Год выд. 7.

Ванкарэм НІКІФАРОВІЧ (ЗША)

## ПІСЬМЕНЬНІК ЗМАГАНЬНЯ І НАДЗЕІ

### Да 75-годзьдзя Васіля Быкава

19-га чэрвеня гэтага году Васілю Быкаву спаўняецца семдзесят пяць. Апошнім часам ён жыве і працуе ў Фінляндыі, але сэрцам, думкамі і душой ён, як і ўсё сваё нялёгкае жыцьцё, разам з бацькаўшчынай, з Беларусьсю, з яе шматпакутным народам. Аб гэтым красамоўна сьведчаць яго новыя творы, глыбока элегарычныя і сымбалічныя, поўныя трывожнага неспакою за простых звычайных людзей, чыя сьвядомасьць і чые жыцьці адчулі гвалтоўны прэс катаклізмаў адыходзячага стагодзьдзя — войнаў, гэнацыду, зьнішчэньняў, страху, — усяго, што прынесьлі народам сьвету фашыстоўскія і камуністычныя таталітарныя рэжымы.

Новыя пакаленьні, што нарадзіліся пасьля Другой сусьветнай вайны ў Беларусі, ды і ня толькі ў ёй, выхоўваліся на натхнёных творах Васіля Быкава. Мы пазнавалі народжаную ў пакутах праўду пра антычалавечнасьць вайны наогул і сапраўдную праўду пра гэту страшэнную і жахлівую вайну, ідучы па яе дарогах, лежачы ў акопах, страляючы і падаючы разам з героямі аповесьцяў "Жураўліны крык", "Трэцьцяя ракета", "Апошняя вышыня", "Абеліск", "Дажыць да сьвітаньня", "Сотнікаў", "Круглянскі мост", "Яго батальён", "Воўчая зграя", "Пайсьці і не вярнуцца" і іншых.

Пасьля прачытаньня такіх твораў Васіля Быкава, як раман "Знак бяды", мы пачыналі разумець увесь бязьлітасны трагізм жыцьця народу, пазбаўленага права на самавызначэньне, на сваю дзяржаўнасьць, права "людзьмі звацца". Усёй сваёй сілаю сапраўднага мастака пісьменьнік на прыкладзе герояў гэтага рамана, звычайных беларускіх сялянаў Зьмітрака і Сьцепаніды пераконваў, што іх сьвядомае самаспаленьне — усяленскі пратэст супроць зла і насільля, нянавісьці і несправядлівасьці, чаго яшчэ так многа ў сьвеце.

Васіль Быкаў вучыць нас заставацца самімі сабой, думаць самастойна і аналітычна, адчуваць уласную годнасьць як годнасьць сваёй нацыі, усьведамляючы свой народ толькі ў адзінай сям'і ўсясьветнай чалавечай супольнасьці. Верны высокім ідэалам дабрыні, справядлівасьці, гуманізму, пісьменьнік аніколі не апускаецца да прыстасаванства і канфармізму, не згаджаючыся з уціскам антычалавечай сацыяльнай сыстэмы і яе ідэялогіі. Можа таму таталітарныя ўлады і раней, і цяпер баяліся і баяцца яго твораў, забараняюць іх выданьне, як было з аповесьцю "Мёртвым не баліць" і яго апошняй кнігай "Сьцяна".

З горычччу разважаючы над сёньняшняй сытуацыяй на радзіме, Васіль Быкаў у адным са сваіх нядаўніх інтэрв'ю казаў: "Мы, беларусы, адсталі ад іншых нацыяў на некалькі дзесяцігодзьдзяў... Але ўсё болей і болей людзей пачынае ўсьведамляць, што яны— учарашні дзень, да якога няма і ня можа быць вяртаньня. Тое-ж самае адбудзецца і ў нас, калі народ зразумее, што і праграма цяперашняга прэзыдэнта і сам прэзыдэнт — міраж у бязводнай пустыні. Калі чалавек пакутуе ад моцнай смагі, ён прымае міраж за рэальны аазіс. Такая ўжо прырода чалавека — да апошняй хвіліны адганяць ад сябе страшэнную думку, што аазісу-ж няма! Ёсьць міраж, падман зроку, ёсьць тое, чаго на самай справе і быць ня можа. Мы станем відушчымі, але гэта будзе пакутліва, трагічна, таму што аднвчасова адбудзецца крушэньне ілюзій, якія людзі прымалі за рэальнасьць, прыйдзе разуменьне, што беззваротна страчана столькі гадоў... Зноў-жа наш давер, наша талерантнасьць..."

Ня толькі сваім зьместам, але і сваёй інтанацыйнай і рытмічнай дасканаласьцю, завершанасьцю формы, спалучэньнем строга рэалістычнай і рамантыка-вобразнай плыняў проза Васіля Быкава працягвае лепшыя рэалістычныя традыцыі і ў беларускай, і ў сусьветнай літаратуры. Як Янка Купала сваёй паэзіяй, так і Васіль Быкаў сваёй прозай паказалі, што і ў беларусаў ёсьць высокі духоўны і мастацкі патэнцыял, што і гэтая нацыя здольная сваімі высокай якасьці ўзорамі літаратуры і мастацтва, як казаў Максім Багдановіч, "ня толькі свайму народу... але і ўсясьветнай культуры несьці свой дар".

Ад імя ўсіх чытачоў "Беларускага Дайджэсту" сардэчна віншуем Васіля Быкава са слаўным юбілеем і зычым яму ўсяго найлепшага: добрага здароўя і новых творчых посьпехаў!



СТО ГАДОЎ!
Высока паважанаму Спадару Васілю Быкаву!



## ЗАЯВА

**шостага з'езда Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны**

Чатыры апошнія гады ў Беларусі афіцыйна і мэтанакіравана вынішчаецца нацыянальны характар адукацыі ўсіх узроўняў. Асабліва цынічна гэта робіцца ў сферы вышэйшай школы - беларуская мова як мова навучання тут практычна адсутнічае; **скасоўваюцца** беларусазнаўчыя дысцыпліны, **не плануецца** вывучэнне гісторыі Беларусі ў якасці самастойнага прадмета; **спынена** выданне тэрміналагічных слоўнікаў і беларускамоўных падручнікаў па прыродазнаўчых дысцыплінах. У нас **адсутнічае** вышэйшая навучальная ўстанова, дзе ўсе дысцыпліны выкладаліся б на мове карэннай нацыянальнасці! Немагчымасць атрымання вышэйшай адукацыі па-беларуску непазбежна вядзе да разбурэння беларускай сярэдняй школы.

Мы не можам мірыцца з афіцыйнай палітыкай русіфікацыі.

**Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны выказвае рашучы пратэст супраць антыбеларускай палітыкі ў сферы вышэйшай адукацыі і патрабуе ад дзяржаўных органаў забяспечыць беларусам права навучання на роднай мове.**

## ВЯЛІКІ ТРАГІЧНЫ ВЫПАДАК У МЕНСКУ

Як паведамляюць сусьветныя прэсавыя агенцыі, 30-га травеня ў цэнтры Менску здарыўся вельмі трагічны выпадак падчас так званых "масавых гуляньняў" або "піўнага фэстывалю". На гэтую дазволеную ўладамі імпрэзу сабралася каля 10.000 чалавек, у большасьці падлеткаў.

Раптоўная зьмена пагоды насунула на Менск улеўную буру з градам. Ратуючыся ад гэтае прыроднае стыхіі тысячы маладых людзей кінуліся ў мэтро на станцыі Няміга. Многія з падлеткаў былі пад уплывам алькаголю...

Вось тут і паўстала безкантрольная паніка, ў выніку якое загінулі больш як 54 асобы, пераважна маладзенькія дзяўчаты, і каля 200 асоб было паранена...

Некалькі спэцыяльных камісіяў приступілі да вывучэньня прычыны гэтае трагедыі...

* * *

Таксама з Менску нам паведамляюць, што ў Беларусі сярэдні месячны заробак выносіць каля 30-ці даляраў у месяц. Пенсыянеры-ж мусяць нейк выжываць за 12 або 14 даляраў у месяц. Вось да якое галечы давёў насельніцтва Беларусі таварыш Лукашэнка...



**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.

Phone: (616) 942-0108;—Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# ФРОНТ І ВЫБАРЫ

Выбары прэзыдэнта Беларусі паказалі, што ў краіне фармуецца новая палітычная воля і што яна імкліва беларусізуецца, гаворыць па-беларуску і гаворыць найперш пра нацыянальныя інтарэсы. Яшчэ крыху, і для паспалітага патрыёта ня стане ніякай вонкавай розьніцы паміж Чыгірам і ўчарашнім манапалістам патрыятызму БНФ. Розьніца выявіцца ў іншым — у здольнасьці да рэальнае палітыкі і наяўнасьці згаданай вышэй палітычнай волі. Праўда, нельга не згадаць і ажыўленьне Фронту, які стаіць на парозе радыкальных унутраных зьменаў.

Закіды пра маскоўскую інспірацыю Чыгіра на гэтых выбарах выглядаюць непраўдзіва. Інакш пэўная частка расейскіх СМІ крычала-б пра выбары ў кожным інфармацыйным выпуску. Аднак — ані слова, ні ў тэлевізіі, ні ў газэтах, ні ў левых, ні ў правых.

Другое пытаньне — пра фальсыфікацыю ліку сабраных галасоў, мауляў, яны нерэальныя. Варта ўявіць сабе, што 10 тысячаў зборшчыкаў па ўсёй краіне на працягу 10 дзён ходзяць па кватэрах. Ім трэба сабраць кожнаму па 350-400 галасоў, г. значыць па 35-40 у дзень. Хто калі-небудзь рабіў такія абходы, зразумее, чаму яны зьбіралі болей. А тое, што хадзілі, — пра гэта сьведчаць рэпрэсіі — затрыманьні, штрафы і г. далей зноў-жа — па ўсёй краіне.

Аднак, вернемся да палітыкаў. Фронт апынуўся ў цэнтры ўвагі незалежных СМІ. Не Пазьняк, як было ў папярэднія гады, а БНФ, думка якога на гэтых выбарах разыйшлася з думкаю старшыні. Зянон Пазьняк зьняў сваю кандыдатуру і даў загад фронтаўцам у выбарах ня ўдзельнічаць. Іншыя лідэры Фронту і Сойм не ўхвалілі гэтага кроку. Выглядае, што калі БНФ у выніку расколецца, дык гэта будзе няроўны раскол, дакладней, адкол той часткі функцыянераў, якія застаюцца ў думках згодныя з учынкам Пазьняка. Так ці інакш, а Фронту ў Беларусі відавочна замінае тое, што ягоная палітычная суб'ектнасьць ня першы год знаходзіцца "ў эміграцыі".

Што лідэры Фронту самі гавораць пра пастанову Пазьняка выйсьці з выбараў і вывесьці з іх БНФ?

**Вінцук Вячорка, намесьнік старшыні БНФ:**

— Лічу, што гэта безадказнае стаўленьне да сяброў Фронту, якія ахвяравалі сваёй свабодай, патрапіўшы за краты, сваімі месцамі працы, з якіх яны былі звольненыя. І безадказнае стаўленьне да людзей, якія паверылі ў гэтыя выбары, у іхную ідэю. Існавала мноства іншых магчымасьцяў адстаяць сваю праўду, свой імідж у канкурэнцыі з іміджамі Ганчара і Чыгіра.

*— Што, на Вашую думку, стане галоўным вынікам гэтага кроку і гэткага стаўленьня?*

— Нанесены вялікі псыхалягічны ўдар па нацыянальна сьвядомай частцы нашага грамадзтва, з наступстваў якога, магчыма, давядзецца выбірацца пэўны час. Насуперак рашэньню Сойму Народнага Фронту, Зянон Пазьняк арганізаваў абзвон сяброў выбарчых камісіяў. Большасьць сяброў гэтых камісіяў — менавіта сябры Фронту. Калі трэба было выкрываць нейкія парушэньні з боку Чыгіра ды Ганчара, гэта-ж можна было рабіць пры дапамозе сяброў выбарчых камісіяў, а не правакаваць сытуацыю, калі прэзыдэнцкае тэлебачаньне гаворыць вуснамі Сяргея Папкова...

*— Дарэчы, а чаму менавіта вуснамі Папкова? Разам са спадаром Крываротам гэты чалавек нечакана для многіх назіральнікаў узьляцеў у фронтаўскія "вярхі" ў другой палове мінулага году. Што за кадры кіруюць сёньня самай аўтарытэтнай партыяй, калі яна фактычна ідзе да расколу?*

— Гэта людзі, якія рэалізуюць на практыцы прынцыпы"вэртыкальнага" кіраўніцтва ды тэлефоннага права...

**Юрка Хадыка, намесьнік старшыні БНФ:**

*— Спадар Юрась, як Вы ацэньваеце апошнюю заяву Зянона Пазьняка наконт зьняцьця сваёй кандыдатуры?*

— Ён мае права гэта зрабіць, згодна з заканадаўствам. Іншая справа — адкліканьне людзей з выбарчых камісіяў, бо гэта ёсьць парушэньнем Статуту Фронту. У сапраўды дэмакратычнай арганізацыі ня можа ўсё вырашаць адзін чалавек.

*— Ці можна сур'ёзна гаварыць, што намеціўся раскол у Фронце?*

— Расколу — няма. Існуюць разыходжаньні ў меркаваньнях і ацэнках...

*— І які прыблізна працэнт сяброў БНФ нязгодны з ягоным лідэрам?*

— Гэта складанае пытаньне. Я магу гаварыць толькі пра кіраўніцтва: два чалавекі ў ім з Зянонам Пазьняком згодныя, чатыры — не. Што тычыцца сакратароў, дык іхныя меркаваньні падзяліліся недзе напалову.

*— Якія наступствы могуць мець гэтыя разыходжаньні, сама пазыцыя сп. Пазьняка?*

— Я спадзяюся, што на галоўным выніку выбарчае кампаніі гэтая сытуацыя ніяк ня скажацца. Але не выключаю наступстваў для самога Беларускага Народнага Фронту. БНФ сёньня, напярэдадні свайго зьезду, апынуўся ў цяжкой сытуацыі. Галоўнае пытаньне бліжэйшага часу (і, відаць, будучага зьезду) — як захаваць адзінства.

*— Ці мае пад сабой рэальную падставу сьцьвярджэньне, што Міхась Чыгір — расейскі стаўленік? А калі-б было гэтак, дык што лепей: мець такога стаўленіка, як Чыгір, альбо ўцекача Пазьняка, які ніякай альтэрнатывы ні цяперашнім, ні лукашэнкаўскім 2001 году выбарам не прапаноўвае?*

— У Зянона Пазьняка стаць прэзыдэнтам шанцаў менш, чым у Адамкуса, калі казаць шчыра. Абвінавачаньне-ж на адрас Чыгіра ў прарасейскасьці ня ўтрымлівае ніякіх рэальных доказаў і сьведчаньняў.

**Вячаслаў Сіўчык, сакратар управы БНФ**

*— Спадар Сіўчык, на прэс-канфэрэнцыі 15 траўня Вы публічна прынесьлі прабачэньні сям'і Міхася Чыгіра. Спадар Хадыка днём раней заклікаў фронтаўцаў з выбарчых камісіяў працягваць сваю працу ў выбарчай кампаніі. Ці не адбудзецца раскол у Фронце, як ва ўкраінскім Народным Руху?*

— Цяпер, акрамя спробаў ураваць гэтую выбарчую кампанію (а рэальныя мэханізмы гэтага яшчэ засталіся), стаіць пытаньне, якім будзе Фронт пасьля 16 траўня. Прыпыненьне ўдзелу ў выбарчай кампаніі, перш за ўсё, не ўспрынята нашай інтэлігенцыяй, людзьмі, якімі мы заўсёды ганарыліся. І першае, што пагражае Народнаму Фронту — пазбавіцца гэтых людзей, дзякуючы палітыцы, якая навязваецца. Другі момант. Ня ўсе структуры БНФ падтрымалі рашэньні Пазьняка і часткі кіраўніцтва.

Беларускі Народны Фронт павінен пазьбегнуць расколу. За апошнія 2 гады пасьля 5 зьезду БНФ практычна ніводная праведзеная Фронтам масавая кампанія ня мела такога рэзанансу ў беларускім грамадзтве, як гэта было ў 91-м, 94-м, 96-м годзе... І я асабіста гэта зьвязваю з тым, што была парушаная сыстэма кіраваньня БНФ і практычна зьнішчаныя ўсе калектыўныя ворганы.

Зрабіць выгляд, што ўсё добра пасьля сканчэньня выбарчай кампаніі, я думаю, ня ўдасца. У БНФ дастаткова шмат людзей, якія зарыентаваліся. Пасьля нечарговага Сойму будзе бачна, у якім накірунку пойдзе Фронт.

*Т. Сьнітко,* «Наша Ніва».

**А што думаюць беларусы Амэрыкі?..**

Ужо ад даўжэйшага часу ў Беларусі бытуе паняцьце, што нібыта ўсе беларусы Амэрыкі лічаць асобу З. Пазьняка як свайго лідэра і падтрымоўваюць яго арганізацыйныя і асабістыя погляды і здольнасьці...

Гэтае ўяўленьне не адпавядае рэчаіснасьці. Ані сп. Пазьняк на беларусаў Амэрыкі ня мае ніякага ўплыву, ані беларусы Амэрыкі ня маюць ніякага ўплыву на З. Пазьняка. Сп. З. Пазьняк дзейнічае самастойна і ходзіць сваімі сьцежкамі. Беларусы Амэрыкі маюць сваіх дзесяцігодзьдзямі выробленых і знаных лідэраў і дзеячаў.

Мы правялі апытаньне ведамых беларускіх дзеячаў Амэрыкі адносна захаваньня сп. Пазьняка падчас нядаўніх выбараў у Беларусі. Ніхто з апытаных не пагаджаўся з дзейнасьцю Пазьняка падчас выбараў. Выглядае, што сп. Зянон Пазьняк як палітык зайшоў у тупік, і вінаваты ў гэтым ён сам...

Беларусы Амэрыкі салідарызуюцца з БНФ (як і з іншымі беларускімі патрыятычна-незалежніцкімі партыямі і аб'яднаньнямі), але не заўсёды пагаджаюцца з шматлікімі лідэрамі ці нейкімі адборнымі асобамі ў Беларусі...

# Абаронім наш Дом – Беларусь!

"Наша Слова"

**"...Досыць ішлі на чужым павадку мы**
**Доўгія векі без веры ў сябе:**
**Мы ўжо не тыя, — інакшыя думы**
**Выраслі з намі, завуць к барацьбе..."**
**Я.Купала.**



Я рабочы, а не палітык і ніколі ім не буду. Аднак, усё сваё жыцьцё жыву на Беларусі і не магу заставацца абыякавым да таго, што адбываецца ў нашым Доме. Запланаванае крамлёўскімі "інтэгратарамі" аб'яднаньне Беларусі з Расеяй можа мець трагічныя вынікі і не толькі для нашай краіны. На старонках вашай газеты я падаю свой голас у абарону свабоды і незалежнасці нашай Бацькаўшчыны. Усе хочуць жыць добра. Аднак, рэалізаваць гэта сваё святое права магчыма толькі ў свабоднай краіне. Вось так, лёс краіны неразрыўна, арганічна звязаны з дабрабытам абсалютнай большасці яе грамадзян. І разуменне гэтага часта прыводзіла да подзвігаў, самаахвярных учынкаў пры абароне, змаганні за свой Родны Кут. Прапаную ўспомніць некаторыя з іх. Самаахвярнасць 300 спартанцаў старажытнай Элады, якія не хацелі стаць рабамі персаў. Самаспаленне мужнага Яна Палаха, які пратэставаў супраць акупацыі Чэхаславакіі ў 1968 годзе савецкімі войскамі і войскамі іх сатэлітаў.

У свеце не было багатых калоній, калі былі, дык выключэнні з усёй каланіяльнай сістэмы. Толькі свабодная незалежная краіна здольна ствараць дабрабыт для абсалютнай большасці яе грамадзян. Поспехі ў яе сацыяльна – эканамічным развіцці залежаць ад многіх фактараў. Сярод іх – формы ўласнасці, узро-вень прадукцыйных сіл, тэхналогіі, інтэлектуальны патэнцыял народа, прыродныя рэсурсы (часовыя), геаграфічнае становішча і інш.

На дабрабыт таксама ўплываюць палітычны статус рэгіёна, або форма і ступень каланіяльнай залежнасці. Там, дзе каланіяльны "павадок" карацей, там і народ бядней. Ідэальны варыянт – наогул, не насіць ніякага ні павадка, ні ашыйніка.

Гістарычны досвед сведчыць, што толькі верхавенства, прыярытэт мясцовых інтарэсаў і законаў над

 



любымі іншымі, прыводзіць да росквіту Краю. Са школьных падручнікаў па гісторыі вядома, што Польшча з 1795 па 1918 год і Фінляндыя з 1809 па 1918 былі ў складзе Расейскай імперыі. Цяпер, давайце ў думках параўнаем, як сёння жывуць фіны і палякі і як расейцы. Думаю, што такое параўнанне не на карысць расейцаў і аб гэтым нават не ўзгадваюць розныя "заедыншчыкі", "інтэгратары". У час бальшавіцкай смуты 1917 – 1921 г. фіны і палякі вызваліліся ад расейскай апекі, вобразна кажучы, абарвалі каланіяльныя "павадкі", сталі на шлях самастойнага развіцця і дасягнулі пэўных поспехаў. Дай, Божа, і нам калі-небудзь зажыць так, як сёння жывуць фіны або палякі.

Былыя калоніі Расейскай імперыі – Польшча і Фінляндыя ўсяму свету даказалі, што без расейскай апекі, без расейскага "павадка" жыць лепш.

У час развалу Саюза летувісы, латышы і эстонцы таксама пазрывалі расейскія "павадкі". Самастойнае развіццё гэтых прыбалтыйскіх краін дае плён. Сярэдняя зарплата ў Летуве складае 260 долараў ЗША у месяц, а ў Эстоніі – 310 ("Народная воля" за студзень 1999г).

Зусім іншая сітуацыя на Беларусі. Мясцовая каланіяльная адміністрацыя пад уплывам Крамля фактычна адмовілася ад самастойнага развіцця краіны. Яна выбрала халяўна-халуйна-батрацкую ідэю: каб атрымаць сыравіну з Расеі на нейкіх "ільготных?" умовах, яна стараецца ва ўсім дагаджаць кіраўнікам Расеі.

Аб такім "партнёрстве" можа сведчыць інтэрвію Лукашэнкі для газеты "Комсомольская правда" за 24 кастрычніка 1997 года "Супрацьпаветраная абарона (ПВО) каштуе для Беларусі 413 мільёнаў у год. А "ПВО" гэта працуе толькі на Расею. Плюс 1600 кіламетраў граніцы. Гэта агульны рубеж Расеі і Беларусі. Значыць, мы абараняем расейскія інтарэсы. Утрыманне памежных войск – 84 мільёны. Мытня каштуе 96 мільёнаў у год. Чыгуначны транзіт – 144 мільёны долараў, нафтаправоды – 118 мільёнаў долараў, газаправад – 80,3 мільёна долараў. Вось гэта ўсё складзіце і атрымаеце больш аднаго мільярда долараў. Расіяне прызналі 800 мільёнаў доўгу. "Хорошо, мы ведь их не просим, тем более всё равно никто не заплатит. Но 800 миллионов минус 210 миллионов, которые мы должны вам были на 1 января за газ. Остаётся 590 миллионов долларов. Заплатите". Вось, такое "партнёрства", ганебная батрацкая ідэя вывела нашу родную Беларусь на мяжу эканамічнага краху. Сярэдняя зарплата ў нашай краіне ў студзені складала 23 долары ў месяц. Савецкая сімволіка, цэны, чэргі, дэфіцыты сведчаць, што мы жывём у Савецкай Беларусі. Ніякага рэальнага суверэнітэту мы не маем. Ва ўсім адчуваецца расейская апека, расейскі "павадок".

*"...Мы здалёку ўбачылі свабоду*

*І яшчэ не вырваліся з пут..."* – гучыць у песні на словы Г. Бураўкіна.

З усіх складнікаў дзяржаўнай незалежнасці – палітычнай, юрыдычнай, эканамічнай, вайсковай, фінансавай, інфармацыйнай, культурнай аўтаноміі мы маем толькі адно. Сёння Беларусь з'яўляецца суб'ектам міжнароднага права. Дэ-юрэ, наша краіна самастойная, Дэ-факта, на вялікі жаль, - расейская калонія. Аднак, нават куцая, урэзаная незалежнасць прыносіць нейкія дэвідэнты. Юрыдычны статус Беларусі дазволіў нашым хлопцам не ўдзельнічаць у расейскіх канфліктах. Беларускія маці не атрымлівалі пахаванкі ні з Чачні, ні з Таджыкістану, або з іншай "сферы расейскіх інтарэсаў".

Дык вось, ад рэальнага суверэнітэту мы маем толькі шыльдачку з назваю "Рэспубліка Беларусь". Сёння у нашым Доме фактычна гаспадараць кіраўнікі Крамля. Мясцовае кіраўніцтва - іх васалы, іх служкі.

За дэмагогіяй "інтэграцыі" – аб'яднання хаваецца імкненне зламаць умоўную шыльдачку, яшчэ бліжэй падцягнуць "павадок" і ператварыць Беларусь у расейскую губернію.

Паступовае вынішчэнне культурнай спадчыны беларусаў і перш за ўсё беларускай мовы і замена ўсяго расейскім не выпадкова. Гэта спосаб прысваення усяго нашага. Гэта спроба расейскіх каланізатараў растварыць беларушчыну ў сваім асяроддзі і абгрунтаваць, узаконіць свае імперскія амбіцыі на нашу тэрыторыю, на нашы багацці. Дзе гучыць расейская мова, там Расея.

Усякае збліжэнне нашай краіны з усходняй імперыяй вядзе народы Беларусі ў галечу. Калі не верыце, дык параўнайце цэны 1996 і цэны 1999 гадоў. Як яны мяняліся у Саюзе Беларусі з Расеяй?

І Ельцын, і Лукашэнка, іншыя "інтэгранты" запрашалі постсавецкія і другія краіны свету далучыцца да Саюза Беларусь – Расея. За няпоўныя тры гады ніхто так і не запісаўся. Чаму? Найбольш верагодны адказ.. "Не выгадна". Тады, хіба можа быць выгадным для Беларусі тое, што іншым краінам не выгадна. Атрымліваецца: "Вазьмі нябожа, што нікому не гожа!"

Дабрабыт грамадзян нашай краіны неразрыўна звязаны з лёсам нашай роднай Беларусі, з яе палітычным статусам. І калі мы хочам жыць добра, заможна, неабходна захаваць юрыдычны статус і напоўніць рэальным зместам іншыя складнікі дзяржаўнай незалежнасці.

Вобразна кажучы, даўно ўжо пара парваць ганебны каланіяльны "павадок", стаць гаспадарамі ў сваім Доме. У гэтых славах не "нацыяналізм", як могуць падумаць некаторыя, а эканамічны разлік. Таму, што прэарытэт мясцовых законаў (дзяржаўнасць!) дае магчымасць скарыстаць увесь мясцовы бюджэт, мясцовыя рэсурсы для вырашэння сваіх мясцовых сацыяльна-эканамічных праблем. Адпадае неабходнасць вялікую частку сродкаў аддаваць "старэйшаму крамлёўскаму брату". Успомнім, БССР плаціла Маскве каланіяльны падатак. Па словах Лукашэнкі на тэлебачанні Савецкая Беларусь уносіла ў саюзны бюджэт на 3 мільярды долараў кожны год.

Усе сацыяльныя выплаты для грамадзян Беларусі праводзяцца з дзяржаўнага бюджэту. Гэта наша агульная скарбонка і яе абрабаванне – гэта абрабаванне большасці з нас.

Нераўнапраўныя адносіны з Расеяй (аб іх можа сведчыць інтэрвію Лукашэнкі для газеты "Комсомольская правда" за 24 кастрычніка 1997 г. - гэта абкраданне Беларусі, што прыводзіць да абкрадання кожнай сям'і, кожнага грамадзяніна, незалежна ад нацыянальнай, палітычнай, канфесійнай і іншай прыналежнасці. Вось чаму, абарона Беларусі – святы абавязак усіх, хто тут жыве.

Аб'яднанне, інкарпарацця Беларусі ў склад Расеі можа мець трагічныя вынікі для Еўропы. Успомнім, як пачыналася другая сусветная вайна. Перакройка палітычнай карты Еўропы пачыналася "мірным" – "рэферэндумным" шляхам. Германскі "інтэгратар!" аматар рэферэндумаў Адольф Гітлер спачатку ў 1935 г. "адрэферэндзіў?" Саарскую вобласць, потым у 1938 г. "зарэферэндзіў" Аўстрыю. "Дапамагаючы" судэцкім немцам, увёў свае войскі ў Судэты, а потым акупаваў і ўсю Чэхаславакію. Распаліўшы апетыт захопніка "беснаваты фюрэр" распачаў агрэсію супраць другіх краін. Патуранне А. Гітлеру з боку Чэмберлена і Дэладдзе, а таксама абыякавасць сусветнай грамадскасці да падзей таго часу закончылась страшнай сусветнай бойняй, калі загінула больш 50 млн. чал.

Манаполія на СМІ дае 100%-ю гарантыю на перамогу афіцыйнага рэферэндуму. Так рабіў "арыйскі інтэгратар" А.Гітлер. На гэта спадзяванні і "славянскіх інтэгратараў". Дык вось, магчымая інкарпарацыя Беларусі ў склад Расеі можа справакаваць эскалацыю расейскай агрэсіі на іншыя краіны. На расейскім тэлебачанні Ю.Лужкоў некалькі разоў публічна высоўваў тэрытарыяльныя прэтэнзіі да Украіны. За магчымым (не дай Бог!) "аншлюсам" Беларусі ахвярамі Расеі могуць стаць (не давядзі Гасподзь!) Украіна, іншыя постсавецкія краіны, потым славянскія і распачнецца страшны армагедон.

Злачынныя планы акупацыі Беларусі – "славянскі аншлюс" зыходзяць ад крамлёўскай карумпаванай крымінальнай вярхушкі. Іх я не звязваю з расейскім народам, які сёння вельмі пакутуе ад крамлёўскай мафіі. І замест "інтэграцыі – акупацыі" я хацеў бы, каб паміж нашымі народамі і краінамі наладжваліся добрасуседскія, раўнапраўныя, партнёрскія адносіны.

Дык вось, калі мы хочам палепшыць свой дабрабыт, нам неабходна абараніць і уладкаваць наш Дом – Беларусь. І спадзявацца трэба перш за ўсё на саміх сябе. У свой час Я. Купала пісаў: *" Самы найлепшы прыяцель, самы найлепшы збаўца наш ад нашага ліхалецця – гэта мы самі. І калі не хочам загінуць, калі не хочам быць вечнымі рабамі, павінны пакінуць мы благую прывычку думаць, што нехта прыйдзе і выратуе нас з нашай бяды, з нашай няволі. Гэта ж не можа быць, каб нехта быў лепшым прыхільнікам да нас, як мы самі да сябе ..."*

Час праявіць нам свае сілы у будаванні новага жыцця для сваёй Бацькаўшчыны, для сваіх сяліб і хат, для нашага падрастаючага маладога пакалення! Пройдуць годы, падрастуць сыны і ўнукі нашы і спытаюць нас тады: "Што зрабілі вы ў той бурны і векапомны час для сваіх нашчадкаў, для свайго краю?" Да такога запытання трэба нам быць гатовымі. Сама гісторыя пакліча на суд і загадае даць адказ. Дык больш самачыннасці, больш смеласці ў будаванні новага незалежнага жыцця".

Жыве Беларусь!

***Галай А. Менск.***

---

Іван СІНЯЎСКІ

Фельетон

*Народная Воля*

# Ці ўсе ў нас дома?

Хопіць! Радыё не слухаю. Тэлевізар адключаю. І без "Рэзананса" ўжо ведаю, што на вярбе грушы растуць. Ад інфармацыі галава ачмурэла, вочы асалавелі. Што робіцца, куды падзецца?! Нідзе няма паратунку. Направа пойдзеш — штраф. Налева пойдзеш — яшчэ большы штраф. Ірванеш наперад — 15 сутак.

Ды і ніхто ўжо нікому не верыць. Сам сабе не верыш. Зарплату атрымаеш — не верыцца. Жонцы грошы прынясеш — не верыць...

Вось такое жыццё...

Аднойчы я ўзяў ды паверыў... прэзідэнту. Быццам дэманстрантам з апазіцыі па дзесяць долараў выдаюць. Ну і кінуўся я на заробкі. Не ўцяміў тады, што дэманстранты-дэмакраты — гэта тыя, што са сцягамі ў першых калонах. Астатнія — суправаджэнне. Так званыя канвойныя дэвізіі ў цывільным. Толькі спытаў я ў апазіцыйным штабе пра баксы, як дужыя хлопцы падхапілі мяне пад рукі і — у пастарунак. Замест баксаў там далі дзесяць сутак і неба ў клетачку.

Ну, скажыце, каму цяпер верыць? Пра суд я ўжо маўчу. Там я вазьмі ды шчыра прызнайся, што паверыў прэзідэнту і хацеў трошкі падзарабіць. А мне за гэта яшчэ дзесяць мінімалак прыплюсавалі: за ілжывыя паказанні. Аказалася, што гэтак наш прэзідэнт пажартаваў...

Нікому цяпер не веру!

А пра жанчыну з чарнобыльскай зоны чулі? Ну гэта тая, што дзесяць год цяжарнай хадзіла. Казалі, што нядаўна разбурылася. Нарадзіла мутанта. Ды яшчэ якога! Маленькі, сівенькі, праўда, без барады. І гаворыць, як першакласнік. Дык ён як нарадзіўся, адразу папрасіўся на вуліцу, каб праверыць асяроддзе, дзе яму прыйдзецца жыць. Схадзіў і хуценька назад у раддом: "Вярніце мяне назад!". Гэта было яго апошняе жаданне.

І Пазьняку не веру. Кажуць, яму Біл Клінтан Белы дом падарыў. Яшчэ гавораць, што адзін маскоўскі багач (іх аліґатарамі цяпер дражняць) легендарны крэйсер "Аўрора" выкупіў і нашай замежнай апазіцыі падарыў на ўзбраенне. Цяпер там Зянон Пазьняк эскадру камплектуе для інтэрвенцыі на радзіму.

Розныя чуткі цяпер па Беларусі разносяцца. Вы ж, пэўна, ведаеце, што аднаго старшыню калгаса, важнага такога, дзве зоркі Героя мае, у клетку пасадзілі. Пасадзіць пасадзілі, ды агледзеліся, што не тым бокам пасадзілі. Спачатку арыштавалі, а потым схапіліся за галаву: крыміналу яму не назбіралі. Ну і пачалі награбаць на яго. Па адной версіі, не туды глядзеў. Па другой — не глядзеў, а ўсё бачыў і прадбачваў. Па трэцяй — быццам бы ўкраў замежны вопыт і спрабаваў прымяніць у сваім калгасе. Як падумаеш, аж дрыжыкі бяруць.

А гэты рэферэндум... Ці чулі, што нарабіў на Беларусі? Тры гады прайшло з тае пары, а на нашай зямлі няма суладдзя. Шукаюць яго, але той знік. Хто ён, дакладна невядома. Адны кажуць, што паляк, другія — амерыканец, а трэція сыходзяцца ў думцы, што гэта натавец яўрэйскага паходжання, але з мінскай прапіскай. Але, думаю, знойдуць і пасадзяць. Калі не ён, дык хто-небудзь іншы за яго пасядзіць. Галоўнае, каб хто-небудзь сядзеў!

Вы, пэўне, бачылі не аднойчы, як наш прэзідэнт міністрам свае мазгі ўстаўляе. Стаяць па шнурку, быццам піянеры на школьнай лінейцы. Ён ім кожны раз: "Не любіце вы свой народ!" А яно і без прэзідэнта відаць па іх тварах, што не любяць. А як за "вертыкальшчыкаў" узяўся! Аж пер'е з іх ляціць — гэтак жорстка скубе! Нехта ж яму нашаптаў на вуха: у змоўніцкія зграі гуртуюцца, зброю назапашваюць, апазіцыю моўчкі падтрымліваюць. Гатовыя вось-вось у партызаны падацца. Ой, як наслухаешся, за яйкамі стоячы ў доўгіх чэргах, то аж не да яечні!

А тут яшчэ паводка на нас, як боскае пакаранне, насунулася. Ды НАТО ваяваць пачало. Чаго добрага і да нас дабярэцца! Гэта не мая думка, а чуў у чарзе ад аднаго дзядзькі, што і ў нас Мілошавічы ёсць, і ў нас ёсць людзі, якія церпяць гэтак жа, як касавары ад сербаў... Можа, і праўда, аб'яднацца з Расіяй? Няхай яна сваю ядзерную зброю паставіць у нас. Яны на нас, а мы на іх... Але куды нам! Лепей бы пасядзець ціха, а то два-тры разы бабахнуць — і душа з нас вон!

А можа, замест таго, каб аб'ядноўвацца з Расіяй, Амерыцы сябе прапанаваць? Тыя б хоць долараў далі. І называліся б мы не проста людзьмі, расіянамі, а самымі сапраўднымі сэрамі. Расійцы нас не возьмуць. Самі яны, не вам гаварыць, па свеце жабруюць...

...Я вось вярнуўся з магазіна, тры гадзіны за яйкамі пастаяў, наеўся яечні з ліверкай, ляжу цяпер на канапе і думаю: лухта гэта ўсё, што кажуць. Радзіму, я так думаю, прадаць можна, але купіць — нельга! Няма на свеце такога капіталу. І на сыты страўнік мне прыйшла такая думка: а ці не ўзяць нам за каўнер тых, хто перашкаджае нам самім сваю жытку абладкоўваць, ды шпурнуць іх у азонавую дзірку, што насоўваецца на Беларусь? І ў дадатак да іх — розных інтэгратараў-махінатараў. І зажывём па праўдзе, без лухты і плётак, без спрэчак і інтрыг, без варожасці і зайздрасці. І не трэба нам ні да каго прасіцца, і нікога да сябе далучаць. Мы ўсе ў сябе дома. І ўсе, хто патрэбен Беларусі, таксама дома застануцца. Пазбавімся толькі ад смецця...

**г.Рэчыца.**

 

Расьціслаў Завістовіч (ЗША.)

# ПЯЦІДЗЕСЯЦІГОДЗЬДЗЕ ПАЎНОЧНА-АТЛЯНТЫЦКАГА САЮЗУ (НАТО)



У лютым месяцы 1948 г. Савецкая Расея зрабіла камуністычны пераварот у Чэхаславаччыне і гэтым самым закончыла працэс саветызацыі Ўсходняй Эўропы. У сакавіку таго-ж году, заходнія алійнты — Амэрыка, Англія і Францыя — вырашылі аб'яднаць свае акупацыйныя зоны Нямеччыны ў адну эканамічную сыстэму, а ў чэрвені дазволілі выпуск новых грошай — нямецкіх марак. Пратэстуючы супроць гэтых акцыяў, Сталін адклікаў сваіх прадстаўнікоў з Аліянцкае Кантрольнае Камісіі, якая пасьля вайны была створана для адміністрацыі акупацыйнымі зонамі Нямеччыны. У чэрвені-ж ён пачаў блякаду Бэрліну, спыніўшы чыгуначную, дарожную і водную сувязь з гэтым горадам. ЗША і Англія адразу пачалі паветраныя дастаўкі ўсяго жыцьценеабходнага для насельніцтва заходніх сэктараў Бэрліну. Блякада гораду цягнулася цэлы год, хоць дастаўка паветрам тавараў прадоўжвалася да канца верасьня 1949 году.

У сакавіку 1948 году было падпісана гэтак званае Брусэльскае Пагадненьне — пяцідзесяцігадовы абарончы саюз паміж Англіяй, Францыяй, Бэльгіяй, Галяндыяй і Люксэмбургам. Сябры гэтага саюзу ды Захад наогул адразу зразумелі, што саюз ня будзе адпаведнаю супрацьвагою савецкай экспансіі без дапамогі і актыўнага ўдзелу Злучаных Штатаў Амэрыкі. Дзякуючы разумнай прадбачлівасьці Гэры Трумана, тадышняга прэзыдэнта Амэрыкі і ягоных Дзяржаўных сакратароў Джорджа Маршала і Дына Эчысона, у красавіку 1948 году пачаліся перамовы паміж краінамі Заходняй Эўропы, Злучанымі Штатамі і Канадай адносна агульнай абароны. Гэтыя перамовы закончыліся падпісаньнем Паўночна-Атлянтыцкага Саюзу паміж Англіяй, Бэльгіяй, Галяндыяй, Даніяй, Злучанымі Штатамі, Ісьляндыяй, Канадай, Люксэмбургам, Нарвэгіяй, Партугаліяй і Францыяй у красавіку 1949 году. У 1952 годзе да саюзу далучыліся Грэцыя і Турцыя, а у 1955 годзе — Заходняя Нямеччына і ў 1982 годзе — Гішпанія. У 1999 годзе, пасьля прыняцьця ў саюз Вэнгрыі, Польшчы і Чэхіі, склад НАТО павялічыўся да 19 краінаў.

І вось у гэтым годзе, ад 23 да 25 красавіка, Паўночна-Атлянтыцкі Саюз урачыста сьвяткаваў сваё пяцідзесяцігодзьдзе ў Вашынгтоне. На працягу 50-ці гадоў свайго існаваньня, НАТО стрымоўвала савецка-расейскую экспансію ня толькі ў Заходняй Эўропе, але і ва ўсім сьвеце. Дзякуючы НАТО, на працягу ўсяго гэтага часу, ў сьвеце захоўвалася палітычная ўстойлівасьць, якая спрычынілася да развалу савецкае імпэрыі, а ў эканамічным аспэкце, да стварэньня дабрабыту ў краінах вольнага сьвету і паўстаньня эканамічных дзяржаваў-волатаў, такіх як Японія і Нямеччына, краінаў дашчэнту разьбітых падчас Другое сусьветнае вайны.

На сьвяткаваньне пяцідзесяцігодзьдзя НАТО зьехаліся ня толькі дзяржаўныя дзеячы краінаў НАТО, але і прадстаўнікі іншых дзяржаваў, уключна з прэзыдэнтамі новых незалежных краінаў — былых рэспублікаў, якія ўваходзілі ў склад СССР. Ня браў удзелу толькі беларускі дыктатар Лукашэнка ды расейскі прэзыдэнт Ельцын, чалавек, якому вельмі імпануе калі Захад не забываецца называць яго дэмакратам. Яны, гэтыя бальшавіцкія гадунцы, пратэставалі супроць натаўскае абароны албанцаў у Косаве, якіх бязьлітасна вынішчае сэрбскі камуністычны дыктатар Слабадан Мілошэвіч. Адмаўленьнем ад удзелу ў натаўскіх урачыстасьцях дэманструецца нейкая такая "славянская еднасьць", але на самай справе, усё, мабыць, зводзіцца да старое камуністычнае салідарнасьці.

Пратэст Ельцына на Захадзе трактуецца, як неразумная ўпартасьць, асабліва, калі ўзяць пад увагу, што апошнімі часамі Захад намагаўся стварыць месца для Расеі ў новай Эўропе. Лічыцца, што гэтая ўпартасьць шкодзіць самой Расеі, бо Расея, адасобіўшыся ад сьвету, яшчэ больш дэманструе сваё бязьсільле.

Беларускі прэзыдэнт, які ніколі-б не зрабіў самастойнага кроку без аглядкі на Ўсход, ужо даўно ізаляваў нашую Бацькаўшчыну ад навакольнага сьвету, дык ягоныя паводзіны на міжнароднай арэне нікім на Захадзе не бяруцца пад увагу.

(Далей на наступнай, 5-ай старонцы)

# СПОВЕДЗЬ *Спадарыні КРЫСТЫНЫ*

Летась у Рызе купка так званых рускамоўных вэтэранаў выйшла на вуліцу, пратэстуючы супраць нібыта ўціску сваіх правоў. Ва унісон на тэлеканалах Грамадзкага расейскага тэлебачаньня, РТР ды іншых распачалася шалёная атака на ўрад Латвіі. Пра ўяўныя парушэньні правоў чалавека ў маленькай прыбалтыцкай рэспубліцы раптам загаварылі тагачасны прэм'ер Чарнамырдзін, кіраўнікі абедзьвюх палат Думы, шматлікія дэпутаты. Мэр Масквы Юрый Лужкоў выказаўся за ўвядзеньне эканамічных санкцыяў...

Крыстына Сакаловіч, жыхарка Гродна, адразу зразумела, у які бок дзьме вецер. Пачуць з вуснаў вышэйшых службовых асобаў Расеі аб правох чалавека было няязвыклым. Калі да нападкаў на латышскі народ далучыўся міністр замежных спраў Беларусі Іван Антановіч, ужо таксама былы, зразумела, што гэта шырокамаштабная правакацыя. Падазрэньне пацьвердзіў неасьцярожным выказваньнем з экрана расейскага тэлебачаньня адзін з думцаў. Ён адкрыта назваў сацыяльны статус удзельнікаў акцыі — былыя афіцэры КГБ, Узброеных сіл, сярод якіх было нямала, відавочна, тых, хто ў розныя часы спрыяў вывазу соцень тысяч няшчасных латышоў на бязьмежныя сібірскія прасторы.

Сэрца вымагала адгукнуцца на несправядлівасьць, і жанчына выказала свае думкі на паперы. Напісанае адрасавала рэдактару газэты "Народная воля" Язэпу Сярэдзічу, а таксама вядомаму камэнтатару радыё "Свабода" Анатолю Стрэлянаму. Аднак лісты не адаслала, мяркуючы, што распавяла занадта ўласнае, глыбока асабістае, біяграфічнае. У мільёнаў людзей такі-ж лёс, навошта акцэнтаваць увагу на маленькім, сваім?..

Яе бацька нарадзіўся ў старажытнай беларускай сталіцы — Вільні. Маці паходзіла з Заходняй Беларусі. Маладыя людзі зьведалі прымусовае выгнаньне падчас першай вайны. Доўгіх сем гадоў шукалі шчасьця ў гарадох і вёсках Расеі. Не знайшлі. Затое бачылі, як тыф, дызэнтэрыя, голад выкошвалі цэлыя беларускія сем'і. Не заўсёды добразычліва ставілася да вымушаных перасяленцаў карэннае насельніцтва. Гора прымушала беларусаў трымацца разам. Так і пазнаёміліся на чужыне будучыя бацькі Крыстыны.

— Пасьля Рыскай мірнай дамовы паміж Савецкай Расеяй і Польшчай маладыя вярнуліся да родных котлішчаў. І што ўбачылі? Зямля зьдзічэла, ад былых хат засталіся толькі пажарышчы. Фронт праходзіў якраз у гэтых мясьцінах. Але вочы палохаліся, а рукі адбудоўвалі. Толькі ў канцы 30-х сталі на ногі. Займелі свой дамок, гаспадарку.

Ратавала і тое, што бацькі Крыстыны былі шчырымі вернікамі-каталікамі. І дзяцей вучылі жыць па Боскіх запаветах: не хлусіць, не красьці, ня піць гарэлку, не гаварыць брыдкіх слоў, знаходзіць радасьць у працы, паважаць сталых людзей і настаўнікаў, дапамагаць бедным і жабракам. У нядзелю і сьвяты абавязкова прыходзіць у касьцёл. І сапраўды, лягчэй станавілася на сэрцы пасьля гарачых малітваў і просьбаў да Бога. Не такім цяжкім і шэрым падаваўся сялянскі побыт. Пакрыху станавіліся на ногі. Была радасьць і ўцеха ў дзецях.

Так жылі да памятных дзён верасьня 1939 году. Чырвоная армія прынесла ў Заходнюю Беларусь вызваленьне, праўда, на штыках. Замест чаканай справядлівасьці і славянскага братэрства прыхадні распачалі паляваньне на людзей. У Сібір пацягнуліся эшалоны з настаўнікамі, дактарамі, дзяржаўнымі служачымі, заможнымі сялянамі.

— Насельніцтва прызвычаілася да спакойнага жыцьця. А тут бальшавікі ўчынілі такі вэрхал і гвалт, што мы не знаходзілі сабе месца. Штоноч энкавэдысты забіралі адразу некалькі сем'яў. Я на свае вочы бачыла, як моцныя здаравенныя дзецюкі са зброяй цягнулі да "чорных варанкоў" старых хворых людзей, нямоглых дзядкоў і жанчын, ганяліся па-за гуменьнямі за дзецьмі. Малых хавалі суседзі. Аднак гэта не ўратоўвала, бо таварышы мелі сьпісы і пунктуальна выконвалі загад. Той енк і плач, праклёны і крык дагэтуль мрояцца мне па начах. Тады-ж папаўзла чутка, маўляў, вывезуць у Сібір усіх палякаў — адразу за беларусаў возьмуцца. Што праўда, то праўда: спакавалі мы ладункі, пазьвязвалі вузлы з падушкамі і чакалі сваёй чаргі.

А ў спусьцелыя пабудовы хлынула новае начальства. Такой грубасьці, бескультур'я, бязбожніцтва, матаперамата тут адвеку ня бачылі і ня чулі. Напачатку нават затыкалі рукамі вушы, пачуўшы бессаромную лаянку. Гэта дастаўляла савецкім работнікам сапраўдную асалоду. Тут яны ўжо выкарыстоўвалі ўвесь свой багаты слоўнікавы запас. Мясцовы люд як мог хаваў падчас такіх размоваў дзяцей.

Не лунаў больш у паветры касьцельны і царкоўны звон. Сьвятары былі арыштаваны, прытулішчы Бога зачынены. Месьцічаў прымушалі выкідваць з хат абразы сьвятых. І ляжалі іконы на сьнезе, строга пазіралі вачыма вялікамучанікаў на ліхадзеяў і запалоханае мясцовае жыхарства. Іншы, хаваючыся ад нядобрага вока, асьмельваўся падабраць ікону-другую і знайсьці для іх надзейнае патаемнае месца ў гаспадарчых прыбудоўках.

Душылі падаткамі польскія ўлады. Яшчэ большыя ўстанавілі Саветы. Асабліва даўся ў знакі бясплатны вываз лесу ад месцаў нарыхтоўкі да чыгуначнай станцыі. Заплаціць талерантны беларус падатак да апошняй капейкі, яму — тыц новую паперчыну, плаці дадатковы. Крэхча рахманы небарака, аднак валачэ апошняе зерне, мяса, яйкі, малако, воўну, сена і салому. А зьверху яшчэ і грошы патрабуюць. Гэта ня ўлічваючы падатак на зямлю, пабудовы, жывёлу, пчаліныя вульлі, нават на яблыні.

— Тыя, хто ня мог зрабіць выплатаў, былі пазбаўлены нажытай маёмасьці. Праз некалькі месяцаў давялі нас да жабрацтва. І як нібыта выратаваньне прагучала салодкая прапанова запісвацца ў калгасы. Не жадаеш? То мо ў Сібір захацеў? Там цябе хутка навучаць калектыўнай працы...

Неўзабаве пачала дохнуць калгасная жывёла. Дагледжаныя ў прыватных гаспадароў каровы ды коні цяпер нагадвалі лагернікаў, пазбаўленых нармальных умоваў. Старшыні, прызначаныя з галыцьбы, але затое моцныя горлам, аматары выпіць і закусіць на чужаніну, якія ніколі не вызначаліся сумленьнем, узялі на дапамогу падобных сабе лайдакоў, падхалімаў і пустамеляў. Якія з такіх арганізатары вытворчасьці? Сьмех адзін. Сваё няўмельства і гультайства яны сьпісвалі на ворагаў народа, шкоднікаў. Зноў зьявіліся "чорныя варанкі".

Крыстына адпрацавала ў такой гаспадарцы дванаццаць гадоў — да вайны і пасьля яе заканчэньня. Як сама сьведчыць, задарма. Толькі некалькі гадоў выдавалі на працадзень сто грамаў зерня і па дзесяць капеек грашыма. Паўшклянкі збожжа за дзень зьнясільваючай працы, якую інакш як катаргай не назавеш. Гадавы заробак — паўтара пуда жыта — прынесла дахаты ў мяшку за плячыма. Норма выпрацоўкі для ўсіх калгасьнікаў была адзінай — 220 працадзён. За невыкананьне зноў-жа пагражалі высылкай у Сібір. А з тых 22 рублёў, зробленых у калгасе за год, дзесяць утрымалі на абавязковую падпіску дзяржаўнага займу. І паспрабуй, скажы каму слова, пажалься ці напішы скаргу. Панаедуць, абступяць, загамоняць ва ўсе галасы пра абавязак перад сацыялістычнай дзяржавай, варожае атачэньне краіны, патрыятызм і любоў да Радзімы. А заадно пільна будуць прыглядацца, што-ж ты за птушка несавецкага палёту?

У прамым сэньсе ратавалі 25-ць сотак прысядзібнага ўчастка. Харчаваліся бульбай ды малаком. Дзякуй Богу, не адабралі адзіную кароўку. А вось кармы здабывай, дзе

хочаш. Абходзіў селянін з касой прыдарожныя раўкі. А салому назапашваў, падкошваючы іржышча пасьля ўбранага калгаснага жыта. Здаралася, завітаў участковы і забіраў гэты нарыхтаваны корм у даход дзяржавы, маўляў, нельга спакушацца на казённае. Яшчэ добра, што ў турму за тыя "каласкі" не садзілі і ў Сібір не спраўджвалі. Затое падаткамі абкладалі, як і густым матам. Цярпі, беларус-небарака! Ты ж у нас працалюбівы, абы вайны ня было!

А вайна прыйшла, хоць саветы пасьпелі шапкамі пазакідаць паўсьвету. І непераможныя яны, і ўзброеныя да зубоў, і варашылоўскія стралкі выдатныя... Уцякалі-ж так шпарка, ажо пыл стаўбом наварочваўся. Немцы расстралялі бальшавіцкіх служкаў, якія найбольш зьдзекаваліся з людзей. Гэта было маленькае чынавенства, бо партыйныя і савецкія работнікі рынуліся на ўсход адразу, не чакаючы загадаў і дазволаў. Калгасы немцы распусьцілі, падзяліўшы паміж былымі працаўнікамі маёмасьць. Адкрыліся беларускія школы. Пачалі выдавацца таксама пабеларуску газэты і кнігі. Зьменшыліся падаткі. Зноў рэхам разьнеслася шматзвоньне касьцёлаў і цэркваў.

— У 1942 годзе ў ваколіцах аб'явіліся партызаны. Пачасьціліся дывэрсіі на чыгунцы. Расла колькасьць забітых немцаў. Немцы выдавалі загад: за пазбаўленага жыцьця немца будуць расстраляныя 100 жыхароў бліжэйшай да гэтага злачынства вёскі. Партызаны выдатна ведалі гітлераўскі парадак — як сказалі, так і зробяць. Але паранейшаму падпільноўвалі ворага каля вёсак. Пасьля ўцякалі ў лес. З-за аднаго-двух чужынцаў гарэлі паселішчы разам з людзьмі. Раней лютавалі бальшавікі, цяпер надышла чарга немцаў. Беларусы апынуліся між двух агнёў...

У пасьляваенны час Крыстына выйшла замуж, нарадзіла дзяцей. Але дабівала галеча. Вясковая моладзь усяляк імкнулася пазбавіцца калгаснага рабства. Пашпартоў на рукі не выдавалі. Савецкае прыгоннае права пажыцьцёва прымацоўвала да зямлі. Адзіным выхадам была вярбоўка на "будоўлі камунізму" — варкуцінскія шахты, карэльскі лесапавал, сахалінскія рыбныя промыслы, сельгасработы ў Латвію.

— Наш вясковец завербаваўся ў суседнюю рэспубліку. Прыехаў на пабыўку і пачаў агітаваць моладзь перасяляцца туды. Паведаміў, што саветы вельмі агалілі тую зямлю ад жыхароў. Спустошаныя цэлыя насельныя пункты. Дабротныя хаты чакаюць новых гаспадароў. Работа знойдзецца ўсім. Даецца 60 сотак. Тамтэйшыя калгасы адразу купляюць новым пасяленцам карову. Няма абмежаваньняў у вядзеньні гаспадаркі. Трымай жывёлы столькі, колькі здолееш. На працадзень гарантаваны кілаграм зерня і рубель грашыма. Чым не жыцьцё! А галоўнае, урад Латвіі дамогся ад саюзнага кіраўніцтва дазволу вербаваць перасяленцаў сярод беларусаў...

Калгас спэцыялізаваўся на вырошчваньні цукровых буракоў. На пакінутым хутары сапраўды знайшоўся і дом, і надворныя пабудовы. Працавітыя беларусы неўзабаве мелі ўжо вялікі ўласны падворак: некалькі кароў, быка, дзьвюх сьвінаматак, кабаноў, безьліч курэй, гусей. Вядома, пасьля беларускай галадухі хацелася адчуць сябе чалавекам. Сумленна працавалі і ў гаспадарцы.

На хутары жылі іншыя сем'і — яшчэ адна з Беларусі, адна з Расеі, латыская з Латгаліі. Пасябравалі з латышамі вёскі, што знаходзілася паблізу. Хутка навучыліся іх мове. Зьведалі традыцыі і сьвяты. Разам люта не любілі невялікае рускамоўнае бальшавіцкае начальства. Яно нічым не адрозьнівалася ад свайго, беларускага, — такое-ж скваплівае на чужое, заўсёды гатовае браць хабар, крывадушнае, схільнае да п'янства і крадзяжу.

— У 1965 годзе мы вярнуліся на Беларусь. Не, прымусу ніякага ня было. Пастанову прынялі самастойна. Інакш было-б не па-Боску...

Крыстына Сакаловіч першай заўважыла старую латышку. Яна сядзела насупраць хутара ў жыце і плакала. Прыходзіла штодня. Да яе зьвярталіся па-руску, па-польску, па-латыску. Але жанчына не адказвала. Мясцовыя паведамілі: гэта гаспадыня дому. Разам з сям'ёй была вывезена ў Сібір. Усе там і памерлі. А вось яна засталася. Знайшла сілы, каб вярнуцца на роднае котлішча і тут скончыць зямное жыцьцё.

Раптоўна чорнымі падаліся тыя два пакойчыкі, якія займала Крыстына з мужам і дзецьмі. Чужое гора моцна скалыхнула яе сэрца. Сама яна прайшла праз такія-ж мукі, зьведала галечу і нястачу. Хрысьціянская душа не магла зьмірыцца з разуменьнем, што сваё шчасьце можна пабудаваць на няшчасьці іншага чалавека. Карацей, дачакаліся восені, выкапалі буракі, наладавалі пятнаццаць грузавікоў, завезьлі нарыхтоўшчыкам. Распрадалі гаспадарку, цёпла разьвіталіся з людзьмі, якія далі прытулак, пакінулі ў сэрцы найлепшыя ўспаміны пра гасьцінных і працалюбівых, як беларусы, латышоў. Дапамаглі старой жанчыне выправіць дакуманты на пакой у яе-ж доме. Мясцовыя латыскія ўлады ўсяляк садзейнічалі гэтаму. Шчыра паставіліся да беларускай сям'і. Усім паселішчам праводзілі на радзіму.

— Бог падказвае мне і сёньня, што мы тады зрабілі правільны крок. Па-людзку абышліся з гаротным чалавекам. Можна было застацца. Але дзе гарантыя, што ня вернецца іншая сям'я. Гэта-ж іх зямля. Мы там былі гасьцямі. І толькі.

Вось чаму Крыстына так непрымірыма паставілася да выказваньняў расейскіх палітыкаў, якія нібыта абараняюць правы так званых "рускамоўных". Чаму-ж яны не паклапаціліся ў свой час пра сотні тысяч латышоў, заходніх украінцаў, беларусаў, летувісаў, эстонцаў, тысячы і тысячы іншых, якіх без суда і сьледства выслалі ў аддаленыя раёны Сібіру? Гэта рабілі вынайдзеныя на расейскай зямлі расейскімі палітыкамі, НКВД, КДБ. Увогуле, уся пачварная сыстэма бярэ пачатак адтуль, з белакаменнай. Цяперашні нібыта клопат пра "рускамоўных" — палітычная гульня, спроба адцягнуць увагу свайго народу ад паўсядзённых праблемаў. І ня больш таго.

І сёньня яны хочуць быць гаспадарамі на чужой зямлі. Вучыць іншых жыць па сваіх нялюдзкіх мерках. Годзе ўжо, таварышы! Час ваяўнічым пэнсіянерам у краінах былога Савецкага Саюзу прызнаць законы гэтых дзяржаў, навучыцца паважаць тутэйшых люд. Рабіць усё, каб пачуцьці нянавісьці да акупантаў не ўспыхнулі з новай сілай. А можа, нехта якраз гэтага і дамагаецца?

У Бібліі сказана: што пасееш, тое і пажнеш.

Антон Лабовіч
Гродна.
"НАРОДНАЯ ВОЛЯ"

## Не праспі сваю долю

*Прадаюць Беларусь*
*І па частках, і разам,*
*На кавалкі дзяруць*
*Дзеля "таннага" газу.*

*Нібы тое цяля,*
*Што і мэкнуць не можа,*
*Цягнуць ўжо да стала,*
*Дзе паселі вяльможы.*

*І заслалі абрус,*
*Пахапалі відэльцы,*
*І ўжо мроіцца кус*
*Беларусі ў талерцы...*

*Прадаюць Беларусь —*
*І плююць, і нявечаць,*
*У "саюзны" хаўрус*
*Нас штурхаюць у плечы.*

*Каб краінай не быць,*
*Стаць закуткам расейскім,*
*Каб сагнуцца і жыць*
*У "калідоры" імперскім.*

*Каб баяўся ступіць,*
*Каб ты мусіў пытацца:*
*"А ці можна прысесці*
*У сваёй ўласнай хаце?"*

*Годзе спаць, Беларусь!*
*Скінь хамут і вяроўкі!*
*Шалашоўкай не будзь*
*На дзядоўскім падворку!*

*Ўспомні мужных сыноў —*
*Кастуся і Купалу,*
*Што не гнуліся ў дол*
*Пад чужацкай навалай!*

*Выйдзі, слова скажы*
*За краіну, за волю,*
*Ў закутку не ляжы,*
*Не праспі сваю долю!*

**Раман СТАНКЕВІЧ.**

(Працяг са старонкі 4-ай)

## ПЯЦІДЗЕСЯЦІГОДЗЬДЗЕ...

Тых, хто робіць вялікую палітыку ў Расеі, хто вёў крывавую вайну супроць чачэнскага народу, дагэтуль не пакідае боязь, што Косава можа зрабіцца прыкладам для далейшага развалу імпэрыі. Сярод іх, гэтых расейскіх палітыкаў, існуе пачуцьцё нічым неапраўданага абурэньня, што НАТО разгарнула вайсковую акцыю супроць Мілошэвіча не атрымаўшы дазволу ад Рады Бясьпекі Аб'ядналых Нацыяў, а гэта, на самай справе, значыць, не атрымаўшы згоды Расеі і Кітаю.

На працягу мінулага году Расея падтрымоўвала пашырэньне аўтаноміі для Косава, яна выступала супроць этнічнага гвалту і выказвалася за вывад сэрбскіх войскаў з Косава. Але, калі Слабадан Мілошэвіч адмовіўся ад свае пачатковае згоды на выкананьне гэтых пунктаў урэгуляваньня ім-жа створанага косаўскага канфлікту, (дарэчы, падтрыманых Радаю Бясьпекі Аб'яднавых Нацыяў), Расея не дала наконт гэтага ніякіх новых прапановаў і адмовілася прызнаць заганнымі цяжкія злачынствы ў Косаве супроць чалавецтва, адказ за якія нясе сэрбскі дыктатар.

Расея адчынена вяртаецца да свае антызаходняе перадперабудовачнае пары. Яе прэм'ер міністар Е. Прымакоў на самым пачатку натаўскіх дзеяньняў казаў, што масавы выхад жыхароў з Косава быў спрычынены выключна натаўскім бамбаваньнем, а расейскі міністр замежных справаў І. Іваноў пайшоў нават далей, цьвердзячы, што гэтак званае "этнічнае ачышчэньне" — прымусовае выгнаньне сэрбамі жыхароў косаўскіх вёсак — ёсьць нічым іншым, як заходняй прапагандай. Захад, спадзяемся, не забудзецца, што расейскія дзеячы ўсіх палітычных кірункаў адмовіліся ганьбіць масавыя гвалтаваньні албанскіх жанчын і забойствы дзяцей і старых людзей у Косаве.

Расея, калі яна яшчэ хоча далучыцца да цывілізаванага сьвету, павінна прызнаць сэрбскую рэчаіснасьць і той жахлівы стан у Косаве, да якога давялі крымінальныя ўчынкі сэрбскага дыктатара.

Без атамнае зброі Расею ніхто ніколі-б не лічыў вялікаю дзяржаваю. Прэтэндаваць на веліч яна, зразумела, не пакідала-б, бо гэта ўжо ёсьць адною з характэрных рысаў расейскіх палітыкаў усіх часоў. Але, бяручы пад увагу дзівацкія міжнародныя паводзіны Расеі, якія часта нічым не адрозьніваюцца ад паводзінаў у папярэднія савецкія часы, і яе эканамічнае бязладзьдзе, з гэтымі прэтэнзіямі ніхто ў сьвеце не лічыўся-б, хоць, мабыць, і не перашкаджаў-бы Расеі цешыцца з свайго незайздроснага перабольшваньня.

Для дабра свае краіны, расейская эліта павінна зразумець, што Расея не здабудзе статусу вялікае дзяржавы пакуль яна не пазбудзецца сваіх унутраных цяжкасьцяў, пакуль не пакіне ўмешвацца ў справы сваіх суседзяў. Нават у далёкай пэрспектыве Расею павінны турбаваць выключна расейскія праблемы. Роля Расеі ў Косаве прыносіць карысьць Слабадану Мілошэвічу, але яна не дае ніякае карысьці косаўскім албанцам, Злучаным Штатам Амэрыкі, краінам Заходняй Эўропы і, нават, Расеі, паколькі гэтая роля застаецца тым фактарам, які адкладае дату ўразуменьня Масквою таго, што яе статус вялікае дзяржавы спыніўся і ўжо, мабыць, назаўсёды.

## "Беларусь — 2000 гадоў"

**...Працавіты, адказны, самаахвярны беларускі народ у вельмі кароткі час пасля вайны адбудаваў разбураную краіну. Узняўся з руінаў Менск, ажылі Бярэсце, Магілёў, Віцебск, Гомель, паўсталі нанова многія спаленыя вёскі. Жыццё прадаўжалася. Беларусь паступова станавілася эканамічна развітым рэгіёнам СССР. Тут пабудавалі заводы-гіганты машынабудаўніцтва, радыё-прамысловасці, па вытворчасці бытавой тэхнікі, угнаення. Прадпрыемствы высокіх тэхналогій працавалі на патрэбы вайсковага комплексу і касмічных праграм СССР. Але ўсё гэта будавалася без уліку інтарэсаў эканомікі самой рэспублікі. Стваралася не індустрыя самастойнай краіны, а своеасаблівы зборачны цэх Савецкага Саюза. Аб'ём выпрацаванай прадукцыі быў арыентаваны на спажыванне на абшарах СССР і за яго межамі. Нездаровы перакос развіцця эканомікі і яго цяжкія наступствы для Беларусі абазначыліся пасля распаду СССР у 1991 г., калі гіганты індустрыі страцілі рынкі збыту і ператварыліся ў цяжкае ярмо на шыі нашага народа. Індустрыяльны патэнцыял краіны аказаўся не надта здольным да самастойнага існавання. Беларусь – яскравы ўзор каланіяльнай палітыкі метраполіі ў адносінах да забраных**

(Далей на наступнай стр.)

тэрыторый. Відаць гэта і на экалагічных наступствах для Беларусі індустрыялізацыі па-савецку. Непапраўныя страты нанеслі экалагічныя бедствы ў раёне Салігорскіх шахтаў, забруджаная атмасфера вакол гігантаў нафтахіміі, Гарадзенскага "Азота", Магілёўскага лаўсанавага завода і г.д.. Цераз Беларусь працягнуты лініі нафта – і газаправодаў, амаль бясплатна для нашай краіны гоняць у Еўропу на продаж расейскія прыродныя багацці. Беларусам з гэтага няшмат карысці, але затое нам пастаянна даводзіцца змагацца са шматлікімі аварыямі, што здараюцца ў сувязі з небяспечным тэхнічным станам састарэлага абсталявання.

Не меней стратаў панесла Беларусь у галіне сельскай гаспадаркі. На працавіты, безадказны беларускі народ Масквою быў навешаны яшчэ адзін цяжкі абавязак – карміць цэнтральныя рэгіёны СССР. Былі пабудаваны гіганцкія жывёлагадоўчыя комплексы, птушкафабрыкі. Цягнікамі на Усход адпраўлялі мясапрадукты, а нам заставаліся "ножкі ды рожкі", ды цэлыя азёры атрутнай жыжы ад такіх комплексаў, што знішчалі ўрадлівыя землі, забруджвалі наваколле. Злачынная палітыка татальнай меліярацыі на беларускім Палессі прывяла да незваротных экалагічных зменаў ва ўсёй краіне і да страты ўрадлівых земляў.

Заканамерным вынікам безадказнай палітыкі, заключным яе злавесным акордам, стала найвялікшая ў гісторыі чалавецтва ядзерная катастрофа на Чарнобыльскай АЭС 26.04.86 года ў суседняй Украіне. Яна прынесла Беларусі незлічаныя страты. 70% радыяцыйных ападкаў асела на нашу краіну, забруджанымі аказаліся 23% тэрыторыі, на якіх пражывала 20% насельніцтва (2,1 млн.чалавек).

Так, на жаль, найвялікшыя бедствы дасталіся гаротнай Беларусі, калі ўспомніць яшчэ і тыя самыя разбуральныя за ўсю гісторыю чалавецтва дзве сусветныя вайны, якія спусташальным валам пракаціліся па нашай зямлі. Даводзіцца толькі здзіўляцца неўміручасці духу нашага народа.

Афіцыйная палітыка савецкай дзяржавы, скіраваная на зліццё нацый ў адзіны савецкі народ прывяла да заняпаду культурных набыткаў беларусаў. Паступова ліквідаваліся беларускія школы, выцясняласе з ужытку беларуская мова, паўсюдна запанавала расейская. Беларусь несла значныя страты ў людскіх рэсурсах. Беларуская моладзь цэлымі цягнікамі вывозілася на асваенне цалінных земляў Казахстана, на лесанарыхтоўкі ў Карэлію і Комі, на будаўніцтва гідраэлектрастанцый, Байкала-Амурскай чыгуначнай магістралі, на сібірскія нафтаараспрацоўкі, выпускнікі беларускіх ВНУ накіроўваліся на працу далёка ад Радзімы. У краіну прыязджалі на пастаяннае жыхарства адстаўныя афіцэры з Расеі, многія з якіх сёння выступаюць супраць замацавання дзяржаўнай незалежнасці Беларусі. Забраная ў войска беларуская моладзь гінула ў Венгрыі, Егіпце, Афганістане, у ваенных канфліктах за чужыя інтарэсы ў Сярэдняй Азіі, на Каўказе, па ўсім свеце, куды сягалі інтарэсы савецкай імперыі.

Дэмакратычныя працэсы канца 80-х гадоў адналілі надзеі беларусаў на самастойнае жыццё. Пачало набіраць сілы новае беларускае Адраджэнне. Створаныя грамадскія структуры ўзялі на сябе арганізацыю нацыянальнага дэмакратычнага руху. Сярод іх найбольш уплывовая – Беларускі народны фронт, лідэрам якога стаў Зянон Пазьняк, Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада на чале з Міхасём Ткачовым.

27 ліпеня 1990 г. ва ўмовах крызісу савецкай сістэмы і ў выніку змагання за незалежнасць была прынята Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР. 25 жніўня 1991 г. пасля распаду СССР Дэкларацыі быў нададзены статус канстытуцыйнага закона.

19 верасня 1991 г. на сесіі Вярхоўнага Савета была зацверджана новая назва нашай самастойнай краіны – Рэспубліка Беларусь і адноўлена наша старадаўняя сімволіка. У 1994 г. была прынята Канстытуцыя нашай новай дзяржавы. Першым старшынёй Вярхоўнага Савета – асноўнага заканадаўчага органа краіны, у 1991 г. быў абраны Станіслаў Шушкевіч.

У ліпені 1993 г. у Менску адбыўся першы ў гісторыі нашага народа Сусветны з'езд беларусаў, арганізаваны Згуртаваннем "Бацькаўшчына". На Радзіму з'ехаліся беларусы з розных краінаў свету.

У тыя гады было зроблена шмат, каб дзяржаўная самастойнасць і вольнае жыццё сталі рэальнасцю для шматпакутнага беларускага народа. Пачалі складвацца ўсе неабходныя дзяржаўныя інстытуты самастойнай краіны.

Аднак шлях да свабоды і годнага чалавечага жыцця аказаўся больш складаным, чым тады бачылася. Пакуль ён не пройдзены намі. Навязаныя народу рэферэндумы ў 1995г., 1996г. кардынальна змянілі кірунак развіцця краіны. Інтэграцыйная палітыка сённяшніх уладаў Беларусі, скіраваная на аб'яднанне з іншымі краінамі, непазбежна прывядзе да фактычнай страты нашай дзяржаўнасці і занядбання жыццёвых інтарэсаў народа Беларусі.

У такой сітуацыі нашаму народу неабходна абаперціся на свой драматычны гістарычны досвед, глыбока ўсвядоміць, што ўласная дзяржаўнасць – наша найвялікшае дасягненне і самая высокая каштоўнасць.

На зямлі жыве мноства нацыянальнасцяў і толькі каля двухсот маюць свае дзяржавы. Сярод іх на карце свету пэўнае месца займае Рэспубліка Беларусь і яе трэба берагчы кожнаму з нас. Уласная дзяржаўнасць забяспечвае найбольш спрыяльныя ўмовы для захавання і развіцця любой нацыі, таму ва ўсіх краінах і ва ўсе часы народы змагаліся за незалежнасць. Нашы продкі лічылі гэта найвышэйшым сваім абавязкам.

Беларуская дзяржаўнасць аплачана мільёнамі жыццяў нашых папярэднікаў. Зямля Беларусі абмыта крывёю лепшых яе сыноў, пралітай ў змаганні за волю, шчодра палітая потам тых, хто стварыў матэрыяльныя і культурныя багацці, што ў нас сёння ёсць.

Справа гонару і святы абавязак кожнага, хто жыве ў нашай краіне, мацаваць дзяржаўную незалежнасць нашай Бацькаўшчыны, не страціць яе, каб ізноў не апынуцца ў няволі, ад якой досыць напакутаваўся беларускі народ. Трэба жыць уласным розумам, быць гаспадарамі свайго лёсу!

# Каб не давялося потым кусаць локці

Шум-гром наконт аб'яднання Беларусі з Расіяй... Абяцанкі, што "только вместе мы выберемся из пропасти"... Надзеі, што ядзерныя ракеты прымусяць увесь свет скакаць пад нашу дудку.

Бліжэй да рэальнасці, спадары! Паглядзіце вакол без павязкі на вачах: правячыя ліхачы ў Беларусі і Расіі прывялі народ да жабрацтва. Што ж мы, "славянскія браты", можам даць адно аднаму? Які ж сэнс здаваць нашу краіну "старэйшаму брату", голаму і галоднаму, які ніяк не справіцца з разгулам бандытызму, грабежніцтва, крадзяжу ў нечуваных маштабах?

Сэнс ёсць, бадай, толькі ў нашага вярхоўнага кіраўніка, які мерыцца сесці на крамлёўскі трон. Але як бы не давялося і яму, і паверыўшаму казкам люду не кусаць потым локці ад няспраўджаных разлікаў, калі будзе згублена ўсё: краіна, гонар, надзея на лепшае.

**Янка БЯДУЛЯ.**

Гродна.

*Васіль БЫКАЎ*

Народная Воля

# Насарогі ідуць...

## Прыпавесьць

Племя даўно страціла незалежнасьць, плаціла вялікую даніну і пачувалася дужа няшчасным.

Прыгняталі племя агідныя і магутныя людзі-насарогі, якія ня ведалі ні бога, ні маралі і бязьлітасна ставіліся да ўсіх, хто ня быў насарогам. Зрэшты, калі і быў — таксама, абы толькі ў чымсь пайшоў насуперак ці вылучыўся з грамады насарогаў.

Правадыром няшчаснага племя быў малады чалавек, гучна і слаўна званы Ко, што азначала Адважны. Ён і быў адважны, вадзіў племя ў бai за незалежнасць, хоць і не здабыў перамогі. Мабыць, здабыць перамогу над насарогамі было немагчыма. Але і капітуляваць канчаткова Ко таксама ня мог. Ён зь імі ўсчаў перамовы. Казаў: шмат што можа аддаць, абы толькі насарогі пакінулі племя ў спакоі. Вядома, апроч незалежнасьці. Людзі племя сабралі ледзьве не ўсю кукурузу, сою, бабы і проса, усе спадчынныя каштоўнасьці — колцы, завушніцы, пярсцёнкі, вельмі прыгожы керамічны посуд, вытворчасьцю якога два стагоддзі славілася племя. Як прыехалі пасланцы насарогаў, усё тое было акуратна расстаўлена і раскладзена на палянцы пад векавым дубам. Прыезджыя абгледзелі і абшчупалі кожную рэч і паехалі. А як праз дзень вярнуліся, сказалі: мала. Мы прыйдзем, пераб'ем племя і возьмем усё задарма. Правадыр Ко засмуціўся, бо ў племя нічога болей не заставалася, чым можна было б задобрыць насарогаў. Тады прыехаў новы пасланец ад насарогаў, які прывёз загад свайго валадара: аддаць яму Аўю, сястру правадыра, самую прыгожую дзяўчыну племя.

Правадыр Ко яшчэ болей засмуціўся. Вядома, яму шкада было ахвяраваць юную Аўю, але што ён мусіў рабіць? Ён пачаў раіцца з радай старэйшынаў, якія падзяліліся на два лягеры. Адны казалі, што трэба згаджацца, інакш усім будзе пагібель. Іншыя даводзілі: ні ў якім разе — насарогі ашукаюць. Возьмуць Аўю і не пакінуць племя ў спакоі. Правадыр Ко пакутна паразважаў ноч і пагадзіўся з патрабаваньнем насарогаў. Меркаваў, калі ён аддасьць сястру, дык, можа, насарогі і пойдуць адсюль у свой край балотаў і багны і тым дадуць племю нейкі спадзяванак. Інакш сапраўды пагібель бяз рэшты надзеі. Назаўтра раніцой ён паклікаў сястру Аўю, якая ўжо ведала пра свой незайздросны лёс. Але яна была дзяўчына разумная і мужна прыняла свой прысуд. Яна любіла племя, зямлю, на якой вырасла, і гатовая была ахвяраваць сабой. Абы зьберагчы іншых.

Але тады раз'ятрылася тая частка старэйшын, якая была супраць саступак насарогам. Асабліва верхавод аднаго клану Джо, які ледзьве не падняў бунт супраць правадыра племя. Правадыру спатрэбілася нямала турботаў, каб суняць нецярплiўца... Дапамагло хіба тое, што насарогі быццам сапраўды пацішэлі і пачалі зьбірацца кудысьці сыйсьці. Тое дужа паспрыяла міру ў племі, дало ўсім спадзяванак. Джо таксама прыціх, змоўчаў, мабыць, адчуў, што памыляўся ён, а не правадыр племя. Правадыр хоць і перажываў за сястру, але пачуваўся задаволеным — усё ж найбольшая небясьпека мінулася.

Племя з падвойным стараньнем узялося за гаспадарку — трэба было нарабіць тое, што аддалі насарогам. Сьпярша і галадалі, і халадалі, але неяк выкараскаліся з нэндзы. Ураджай кукурузы і маісу ў тым годзе абяцаў быць неблагі, паявілася надзея не зьгінуць з голаду. Галоўнае — быў мір, насарогі пакуль не назалялі. Падобна на тое — кудысь сышлі. Правадыр Ко пачаў ганарыцца мудрасьцю сваёй палітыкі, хоць і не пераставаў шкадаваць бедную сястрычку. Іншыя людзі з рады старэйшынаў неахвотна, але патроху прызнавалі, што памыліліся, калі выступалі супраць гнуткай палітыкі Ко.

І менавіта ў такі момант, на сконе лета, як у полі дасьпяваў ураджай маісу, прыйшла вестка, што насарогі вяртаюцца. Праз дзень-два племя дачулася, што ўжо вярнуліся. Іх насарожыя фалангі ўжо бачылі па той бок абмялелай за лета ракі, перайсьці якую было дужа лёгка. І праўда — яшчэ праз дзень цераз яе пераехалі пасланцы насарогаў, якія сказалі, што ідуць. І болей нічога.

Правадыр Ко тэрмінова сабраў раду, але што ён мог ёй сказаць? Над племем зноў навісла сьмяртэльная пагроза. Усё племя складала, можа, трэцюю частку войска насарогаў. Адкупіцца на гэты раз ня было чым. Каштоўнасцяў яшчэ не напрацавалі, ураджай быў на полі. Калі што, насарогі яго спрэс панішчуць, перш чым панішчуць племя. Адчуўшы бяду, у хібарах-халупах залямантавалі жанкі. Тады хтось з рады ўспомніў, якім чынам адкупіліся тым разам. Трэба было прапанаваць прыгажуню.

Канешне, прыгожых дзяўчат у гэтым годным племі было шмат. Але ўсе ведалі, што самаю здатнай прыгажуняй была жонка правадыра, якую клікалі Чуя. На яе і паказалі старэйшыны племя.

Правадыр Ко сьпярша адчуў ярасьць да ўсіх адразу – сваіх і чужых. Ён кахаў Чую і нікому не хацеў яе саступаць. Але і як было яму быць? Насарогі набліжаліся, жыць племю заставалася некалькі дзён. Рада старэйшынаў патрабавала сьпяшацца. Толькі Джо быў супраць таго, каб саступаць насарогам. Ён казаў, што ня хоча належыць да племя, якое ратуе сябе коштам жыцьця сваіх самых годных жанчынаў. Але Джо быў гэткі адзін сярод рады старэйшынаў. А на сумленьні правадыра Ко былі сотні жанчынаў, старых і дзяцей ягонага племя. І ён надумаў аддаць жонку. Тая паслухалася мужа-правадыра, але, ад'язджаючы за раку, пракляла яго і ўсё племя разам, якое ня здолела яе абараніць.

Усё адбылося так, як і меркаваў Ко, — прывабны падарунак падзейнічаў. Рать насарогаў пару дзён пастаяла за ракой і зноў кудысь выправілася. Правадыр перажываў, сумаваў, часам праклінаючы правадырскую долю, але ўвогуле быў задаволены. Аўтарытэт ягоны ў племі падвысіўся — усе зважалі на ягоную ахвярнасьць і разумелі, каму абавязаны паратункам. Усе, апроч Джо, які ў першую ж ноч сабраў свой невялічкі клан і кудысьці сышоў.

Зноў племя патроху сьцішылася, пачало абжывацца. Сабралі неблагі ўраджай, сталі лепей карміць дзяцей ды і самі наеліся ўволю. Людзі, асабліва старыя, дужа хвалілі правадыра, які забясьпечыў ім мірнае жыцьцё, зьбярог племя. Сам Ко, аднак, жыў халастым, марнеў і худнеў, стаў маўклівы і злосны. На сьвятах, калі ўсе ве-

сяліліся, ён маўчаў, на відавоку чарнеючы ад гора. Ён штось прадчуваў. І прадчуваньне яго не ашукала.

Праз паўгода, пасьля сезону дажджоў, як сышла вялікая вада ў рацэ, зноў паявіліся пасланцы насарогаў. На гэты раз яны сказалі толькі адно: ідуць па жанчынаў. Насарогам спадабаліся тутэйшыя жанчыны, і яны хочуць іх — усіх і разам.

Племя ахапіў адчай, а правадыр Ко раптам узрадаваўся, бо штось зразумеў. Ранейшы клопат, што прычыніў яму столькі пакутаў і адабраў любую жонку, зьнік. Ко стаўся бясклапотным — ня трэба было выбіраць. Ня стала надзеі. Усё зрабілася проста — ісьці і гінуць. На перамогу ня было разьліку. Перамагчы насарогаў яшчэ нікому ня шэнціла, ад іх можна было хіба адкупіцца. Калі было чым. У племя ж нічога не засталося.

Раненькім ранкам на пачатку лета племя паўстала на беразе ракі. Маладой траўкай шчодра зелянелі рачныя берагі, вялікія жоўтыя кветкі ўпрыгожвалі прырэчнае кустоўе. Племя выстраілася ў тры шэрагі — наперадзе мужчыны і юнакі, у другім шэрагу — жанкі, ззаду за ўсімі — рабяты і старыя. Усе ўзброіліся хто чым — ад мячоў да кухонных вілачнікаў. Чакалі. Да правадыра часам падыходзілі сябры і дарадцы, шмат якія казалі: ну што мы ім зробім? Колькі нас і колькі іх? Лепш, можа б, аддаць жанок ды ўратаваць дзяцей... Правадыр слухаў усіх, не пярэчыў і быў дужа спакойны. Рашэньня свайго не мяняў. Толькі чакаў. Чакаў і чакаў...

Насарожая рацць, не спыняючы баявой хады, сунулася ў раку і бродам рушыла на гэты бераг. Злы вагонь гарэў у вачох раз'ятраных людзей-насарогаў, басавіты насарожы рык мкнуў зь іх разінутых зяпаў, як яны згледзелі пекных жанок. Але, каб імі авалодаць, трэба было забіць іхніх мужчынаў. Тое, аднак, выглядала сумніўна, бо ніхто з мужчынаў і ня думаў бегчы. Баяцца баяліся, але ўсе стаялі ў шэрагах — плячо да пляча, нарыхтаваўшы зброю — сякеры, пікі, мячы і нажы. Яны і сустрэлі першую навалу насарогаў. Біліся, рэзалі і калолі зь пераменным посьпехам — то насарогі племя, то племя насарогаў. Апоўдні шансы насарогаў на перамогу пахіснуліся, людзі ж племя ніякіх шансаў ня мелі і ні на што не спадзяваліся. Адно біліся на зьнішчэньне — сваё і насарогаў.

Праз увесь дзень доўжылася бітва. Стаптаная на беразе трава стала чырвонаю ад крыві, чырвонаю цякла скаламучаная вада ў рацэ. І тады надвячоркам зьняможаныя, скрываўленыя людзі племя адчулі, быццам засталіся жывыя. Быццам пераmaglі нават. Горы насарогавых целаў ляжалі на беразе, іншыя плылі па вадзе тоўстымі брухамі ўгару. Шмат людзей палегла — жанок і мужчынаў, але зь берагу не саступілі. Правадыр Ко таксама загінуў. Пад вечар племем камандваў немаведама скуль прыйшоўшы апызыцыянэр Джо.

Як сьцямнелася, ён сабраў у нізкарослым кустоўі рэшткі племя, дазволіў усім адпачыць. А сам устаў, і як у небе запаліліся першыя зоркі, сказаў, паварнуўшыся да самай нізкай.

— Дзякуй, Марс! За дапамогу тым, хто страціў надзею...

Яго ніхто не абіраў, не прызначаў правадыром. Ды ён і не пытаўся ні ў кога. Ён ужо ведаў, як трэба ставіцца да насарогаў і як ня трэба — таксама. Жыцьцё навучыла...



**Васіль БЫКАЎ**

# НА ПАДВОРКУ

**(Чалавеку сабачай пароды прысьвячаецца)**

У цёплы красавіцкі надвячорак, як праясьнела неба, стары нямоглы Баркун выбраўся на падворак.

Усю зіму ён хварэў на нейкую незразумелую хваробу, якой не маглі даць рады тутэйшыя дактары. Пад вясну, аднак, стала лягчэй, і дзядок, надзеўшы паточаны мольлю палітончык ды старыя валёнкі на ногі, выбраўся з цеснай хрушчоўкі. Хадзіць ён ня мог і звычайна прымошчваўся на лаўцы каля дзьвюх мэталічных скрынак для сьмецьця, стомленым позіркам азіраў падворак, застаўлены шэрагам аўтамабіляў. Аўтамабілі старога мала цікавілі, а людзей у гэты час на падворку ня было відаць, і Баркун аж задрымаў крыху, хілячыся на спрытны кіёчак. Аж пакуль з крайняга пад'езду ня выйшла пяцікласьніца Каця з сабакам на павадку.

Згледзеўшы сабаку, Баркун падзівіўся: увосень, як ён сядзеў на гэтай во лаўцы, таго сабаку-шчанюка Каціны бацькі толькі набылі дзесьці, і дваровая дзятва ўсёй грамадой з ім забаўлялася. Гэта быў сьмешны, даверлівы шчанюк. Неяк ён прыбег на караткаватых лапах да пенсіянера, старанна абнюхаў ягоныя валёнкі і, даверліва прысланіўшыся да іх, выцягся на асфальце. Праўда, доўга ляжаць каля дзеда яму ня далі, Каця павяла яго пагуляць. Ну і хай, думаў Баркун, які ня надта любіў сабак, ніколі ня меў іх і не ўхваляў цяперашнюю завядзёнку гараджанаў трымаць іх на цесных паверхах. У гады дзедавай маладосьці сабакі бегалі па двары на ланцугах, пільнавалі маёмасьць. А цяпер якая маёмасьць? Хіба тэлевізар...

Каця хацела павесьці сабаку ў другі канец падворку, дзе была пясочніца для дзяцей, але той раптам пацягнуў у іншы напрамак. Гэта ўжо быў ня колішні лагодны шчанюк, а дужы, наравісты ротвэйлер з зацятым сабачым характарам. Каця, аднак, любіла яго, і ён з большага яе слухаў. Трэба было толькі цьвярдзейшым голасам скамандаваць "Джэк, ціха!" і той ня надта ахвотна, але падпарадкоўваўся. Тут-жа ён неяк дужа зьнянацку пацягнуў павадок, Каця трымала моцна, але аж пахіснулася ад ягонага рыўку. Яна падумала, што, можа, сабака заўважыў ката, аж ката нідзе ня было відаць, адно зводдаль на лаўцы сядзеў нямоглы Баркун. І Каця падалася за сабакам. Толькі ў апошні момант яна сьцяміла, што дарма. Джэк з нязвыклаю сілай тузануўся, Каця не ўтрымала, і сабака апынуўся ля лаўкі.

Што было сілы дзяўчынка крыкнула "Джэк!", падхапіла раменны павадок з долу, з жахам гледзячы, як Джэк валіць з лаўкі старога. Той і сапраўды паваліўся на асфальт, здушана крыкнуўшы, а Джэк, нядобра напяўшыся, усеўся на яго. Каця тузала за павадок, а калі тое не памагло, пачала біць сабаку канцом павадка, роспачна крычучы:

— Джэк! Джэк! Джэк!..

Спалоханы Кацін крык нёсься ўздоўж падворку, ды марна. Стары Баркун неяк зьнямогла і моўчкі адбіваўся, няўлад махаючы рукамі, а па асфальце з-пад яго ўжо расьцякаўся ручаёк крыві. У крыві была і асканеная сабачая зяпа, самкнутая на шыі небаракі.

На роспачны Кацін крык прыбегла жанчына ў жоўтай куртцы з пустой гаспадарчай сумкай, якой пачала біць сабаку, таксама крычучы на ўвесь падворак. Але карысьці з таго было мала, сабака не зважаў на ўдары, бы і ня было іх зусім, і ведаў адно — трымаць сашчэпленыя зубы на старэчай шыі. У ягоных зьвярыных вачох з закочанымі ад ярасьці зрэнкамі была нязрушаная зьвярыная лютасьць. Здавалася, ён ня меў сілы расчапіць свае іклы, з-пад якіх па каўняры і плячы небаракі густа лілася кроў. Старэчы твар Баркуна стаў белы, чалавек толькі хрыпеў, зьнясілена хапаючыся рукамі за скрываўленую пысу сабакі.

З суседняга пад'езду выйшаў прадпрымальнік Жураўскі з кейсам у руках, якім ён няспрытна выцяў сабаку. Ды таксама марна. Той і не скрануўся нават і толькі трымцеў ад гневу і напружаньня. Тады Жураўскі некалькі разоў выцяў яго наваксаваным чаравікам у бок. А і то марна. Баркун тым часам перастаў хапацца за сабачую морду, слаба і бязмэтна лапаў побач рукамі, бы шукаючы апоры. Каця голасна лямантавала. Жанчына ўрэшце кудысьці пабегла, — здаецца, тэлефанаваць у міліцыю.

— Што-ж гэта робіцца? Джэк, міленькі, пусьці, ну пусьці, — плакала над сабакам Каця.

Аднак Джэк і ня думаў выпускаць ахвяру, якую ён, відаць па ўсім, залічыў сваёю здабычай. І можа нават абураўся ад таго, што іншыя хочуць яе ў яго адабраць. Паводле зьвярыных законаў здабычу ён не хацеў саступаць нікому і толькі абурана ўтробна вурчэў.

Тым часам лямант на падворку ўчулі людзі. З суседняга дзіцячага садка прыбегла выхавацелька ў белым халацку, аднекуль прыдыбаў пенсіянер Цыпрукоў, што асьцярожна нёс цэлафанавы пакет з дзьвума бутэлькамі кефіру. Усе жахаліся ад таго, што ўбачылі.

— Ды ён шалёны!

— Сякеру! Сякеру нясіце! — загадаў Цыпрукоў.

Аднак за сякерай ня было каму бегчы, а Каця ўсё плакала, тузаючы за павадок.

— Джэк, Джэксанька, ну пусьці...

— Нямедленна трэба забіць. Гэта бешанства, — настойваў Цыпрукоў.

Жураўскі, адвярнуўшыся, выціраў насоўкай крывавыя пырскі з чорных бакавінаў кейса. Ад магазіннай падсобкі паблізу прыбег грузчык у замызганым сінім халаце. Тонкай дашчэчкай ад скрынак ён выцяў па хрыбціне сабаку, — той аж енкнуў, але выпускаць з сваіх іклаў ахвяру, падобна, і не падумаў. Грузчык узяўся з усяе сілы біць яго дошкай. Ды таксама марна. Сабака мацней уганяў свае іклы ў маршчыністую шыю ахвяры, цепаў вачыма, а зяпы не разьнімаў. Баркун між тым ужо і ня рухаў — ні рукамі, ні галавой... Людзі ня ведалі што рабіць і ўзрушана гаманілі:

— Мабыць, шалёны...

— Гэтыя і нешалёныя могуць.

— А ня трэба дражніць.

— Хто дражніў? Ён сядзеў ціха.

— Разьвялося сабачнікаў... Тут самім жраць няма чаго.

— Гледзячы ў каго няма. Некаторым — ад пуза.

Нарэшце з-за вугла дому паявіўся міліцыянер, за якім беглі тры хлапчукі, што, мусіць, і паклікалі яго. Гэта быў малады чалавек з рашучым выглядам вусатага твару, ён адразу зразумеў, што адбываецца, і строга запытаўся:

— Чый пёс?

— Вунь Казловай, — паказалі хлапчукі на Кацю.

Міліцыянер нетаропка дастаў пісталет, лязнуў затворам, і хлапчукі застылі поўныя страхавітай увагі.

— Ой, ня трэба, ня трэба страляць! — голасна залемантавала Каця і ашчаперыла за азадак сабаку. — Джэк, даражэнькі, пусьці... Ну пусьці...

— Адыйдзі, — загадаў міліцыянер, прыладжваючыся, каб зручней стрэліць.

— Джэк, Джэк! — у адзін голас крычалі Каця, Жураўскі і грузчык. Ды марна. Здаецца, сабака гатовы быў згінуць, а ня выпусьціць з зубоў скрываўленае старэчае горла.

— Дарма. Усім атайці! Атайці ў старану!

Усе трохі пастараніліся, і міліцыянер нахіліўся з пісталетам, амаль прыставіўшы яго да сабачае галавы, і стрэліў. Зусім нават нягучна. Сабака тоненька віскнуў і апаў, напасьледак шлёпнуўшы аб асфальт азадкам. Міліцыянер ухапіў яго за ашыйнік і з натугай адкінуў убок. Баркун ня кратаўся.

— Хуткую! Выклікайце хуткую!

— Выклікалі ўжо.

— Ці ня позна? — сказаў грузчык, нахіліўшыся над небаракам. — Загрыз да сьмерці...

— Тады пратакол, — сказаў міліцыянер, расшпільваючы сумку. — Сьведкам застацца.

Народу вакол адразу стала меней. Прадпрымальнік Жураўскі хуткім крокам падаўся з падворку, пайшла да свайго садка маладая выхавацелька. Грузчык з кішаня замазганага халата дастаў пачак "Кенту".

— Гэта-ж трэба — на пенсіянера! Што ён яму зрабіў?

— Я гэтую пароду ведаю з Афгану, — сказаў міліцыянер.

— Калі ўчэпіцца, ня выпусьціць, Інстынкт не дазваляе.

— Як каторыя людзі, — зазначыў Цыпрукоў.

— Ці якія начальнікі, — дадаў грузчык, — з інстынктам.

— Якія гэта начальнікі? — узьняў з лаўкі галаву міліцыянер.

— А ёсьць. Разьвялося... І чаго гэта ён на старога? — адразу зьмяніў тэму гаворкі грузчык.

— Мусіць, ведае, чаго, — загадкава сказаў Цыпрукоў.

Міліцыянер пачаў складаць пратакол. Побач, ашчаперыўшы мёртвае цела сабакі, плакала Казлова Каця і нерухома ляжаў скрываўлены небарака Баркун. З яго нацякла шыракаватая лужынка крыві, у якую патроху ўпаўзаў па затаптаным асфальце струменьчык іншай крыві — ад сабакі.

# За працу на карысць яднання хрысціян

Старшыня бюро секцыі мастацкага перакладу і літаратурных сувязяў Саюза беларускіх пісьменнікаў, загадчык кафедры славянскіх літаратур БДУ доктар філалагічных навук **Іван Чарота стаў лаўрэатам прэміі імя князя Канстанціна Астрожскага.**

Гэта міжнародная і міжканфесійная ўзнагарода спецыяльнага камітэта, які складаюць прадстаўнікі навукі, культуры і Царквы. Заснавала камітэт рэдакцыя часопіса "Пшэглёнд Праваслаўны" (Беласток, Польшча). Прэмія прысуджаецца за заслугі ў развіцці культуры, думкі і духоўнасці праваслаўнай, а таксама за працу на карысць яднання хрысціян, што цалкам увасабляе ў сабе падзвіжніцкая дзейнасць слыннага сына зямлі беларускай — князя Канстанціна Астрожскага.

Сёлета, разам з прафесарам Іванам Чаротам, узнагароджаны прафесар Ягелонскага універсітэта Ганна Ружыцка-Брызэк і прафесар Маскоўскай духоўнай акадэміі протапрэсвітэр Віталій Баравой.

Дарэчы, айцец Віталій таксама беларус паходжаннем, з Палесся, выпускнік Віленскай духоўнай семінарыі.

**У. І.**



# Пішацца гісторыя літаратуры



У выдавецтве "Беларуская навука" выйшаў першы том "Гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя", які ахоплівае 1901—1920 гады. З'яўленне падобнага выдання даўно наспела. Як вядома, ад выхаду папярэдняй акадэмічнай "Гісторыі беларускай літаратуры" ў чатырох тамах мінула нямала гадоў. Першы том яе пабачыў свет у тагачасным выдавецтве "Навука і тэхніка" ў 1965 годзе, апошні — у 1969-м. За гэты перыяд нацыянальнае прыгожае пісьменства пайшло далёка наперад. У літаратуры плённа працуюць прадстаўнікі новых творчых пакаленняў, а тыя, хто некалі быў маладым, цяпер стаў гонарам яе. Значыць, ёсць патрэба асэнсавання гэтых важкіх набыткаў. Аднак на напісанне новай "Гісторыі..." паўплывалі і іншыя, няменш важкія прычыны. У шырокі літаратурны набытак вернуты многія творы, што на працягу дзесяцігоддзяў замоўчваліся. Тыя ж, што выходзілі са значнымі купюрамі, друкуюцца ў сваім першапачатковым выглядзе. Нарэшце знята табу ў дачыненні пісьменнікаў, якія з-за сваіх палітычных поглядаў зусім замоўчваліся. Акрамя таго патрабуе ўвядзення ў агульны нацыянальны літаратурны працэс творчасць прадстаўнікоў беларускай эміграцыі. А да ўсяго сталі вядомы многія новыя факты, якія тычацца літаратурнага і ўцэлым культурнага жыцця.

Усё гэта і стала перадумовай напісання новай гісторыі нацыянальнай літаратуры. Вырашана выдаць яе ў шасці тамах. Уласна "Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя" зойме чатыры тамы. Пасля з'явіцца "Гісторыя старажытнай і новай беларускай літаратуры" ў двух тамах. А што напісанне "Гісторыі..." вядзецца ў "адваротным" кірунку, таксама невыпадкова. Справа ў тым, што менавіта творы, якія былі напісаны ў савецкі перыяд, крытыкай і літаратуразнаўствам, а адпаведна і тымі даследчыкамі, што працавалі над "Гісторыяй...", асвятляліся і разглядаліся тэндэнцыйна, над мастацкімі ацэнкамі часта пераважалі ідэалагічныя, большая ўвага надавалася творам (і пісьменнікам), якія працавалі па сутнасці па сацыяльным заказе і, наадварот, крытыцы падвяргалася тое, што, у прыватнасці, сведчыла аб распрацоўцы аўтарамі праблем нацыянальнага жыцця. Таму згаданы перыяд у развіцці літаратуры і патрабуе хутчэйшай пераацэнкі як мага большай аб'ектыўнасці. А падругое, супрацоўнікі Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, якія спецыялізуюцца на старажытнай літаратуры і новай літаратуры, апошнім часам падрыхтавалі і выдалі чатырохтомныя "Нарысы па гісторыі беларуска-рускіх літаратурных сувязей". Над "Гісторыяй беларускай літаратуры XX стагоддзя" працуюць не толькі навукоўцы згаданага акадэмічнага інстытута. Актыўна далучаюцца да гэтай важнай, можна сказаць, дзяржаўнай справы выкладчыкі Беларускага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка, Віцебскага і Брэсцкага універсітэтаў.

Асноўнае месца ў першым томе займае раздзел "Літаратура пачатку XX стагоддзя. 1901—1917". Агляднья артыкулы па паэзіі, прозе, драматургіі, крытыцы і літаратуразнаўстве напісалі Л.Гаранін, С.Лаўшук, М.Мушынскі. Асобныя артыкулы прысвечаны творчасці найбольш вядомых пісьменнікаў: Ядвігіна Ш. (Л.Голубева), Цёткі (І. Багдановіч), Я.Купалы (І.Навуменка), Я.Коласа (М.Тычына), З.Бядулі (І. Навуменка), М.Багдановіча (І. Навуменка), А.Гаруна (У.Казбярук), Ф.Аляхновіча (У.Ковель), Ц.Гартнага (Т.Дасаева), М.Гарэцкага (М. Мушынскі), В. Ластоўскага (Я. Янушкевіч), А.Луцкевіча (А. Бяляцкі). Раздзел "Літаратура перыяду рэвалюцыі і грамадзянскай вайны" напісаў У.Казбярук. Крытыку і літаратуразнаўства 1917—1920 гадоў разглядае М.Мушынскі. На завяршэнне твора прапануецца хроніка літаратурнага жыцця гэтых гадоў, аўтары якой У. Гніламёдаў, В.Смольская, М.Варвашэвіч, І.Шаладонаў. Навуковымі рэдактарамі з'яўляюцца народны пісьменнік Беларусі акадэмік І.Навуменка і акадэмік В.Каваленка.



Н.К.

## Далейшыя ахвяраваньні на Беларускі Музэй у Гайнаўцы, Беласточчына...

| | |
|---|---|
| 200. Ліда Катовіч | $20.оо |
| 201. В. Пашкевіч (Канада, $50 кан.) | $33.47 |
| 202. Міхась Белямук | $30.оо |
| 203. Др. Міхась Жылік | $50.оо |
| 204. Пятро Касаты (ў пам. бацькоў) | $50.оо |

Прадаўжэньне ЛІСТЫ ахвярадаўцаў у наступных №№ нашае газэты...

Моцна просім нашых чытачоў перасылаць свае ахвяры на Музэй на наш адрас, на прозьвішча М. Пpускі.

**Усіх тых людзей добрае волі, хто дасюль яшчэ не пераслаў свае ахвяры, ветліва просім не адкладаць гэтую справу на пазьней, а выслаць ахвяру яшчэ сёньня... Дзякуем!**



## Курсы валют

**На 3 траўня Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў наступныя афіцыйныя курсы валют.** Даляр ЗША — 245.000 беларускіх рублёў. Еўра — 259.614,25. Нямецкая марка — 132.738,66. Расійскі рубель — 10.140. Украінская грыўна — 62.429,93.

У параўнанні з пятніцай, 30 красавіка, афіцыйны курс даляра ўзрос на 1.000 рублёў.

На «чорным» рынку наяўнай валюты ў Менску раніцай 3 траўня даляр куплялі па 405.000—410.000 і прадавалі па 415.000—420.000 рублёў. У параўнанні ў пятніцай, курс узрос у сярэднім на 5.000 рублёў.

Уладзіслаў КАНАВАЛАЎ (Беларусь)

## Міграцыя рабочай сілы як фактар культурна-этнічных працэсаў у Беларусі

Культурна-этнічныя працэсы ў гісторыі грамадства вельмі часта вызначаюцца эканамічнымі прычынамі. У сучасным грамадстве найбольш важкім фактарам такога кшталту зьяўляецца міграцыя рабочай сілы, якая набыла моцную дынаміку ва ўсім сьвеце пад уплывам НТР і інтэграцыйных працэсаў. Актывізавалася мабільнасьць шматнацыянальнай рабочай сілы і на абшарах былога СССР. Аднак у СССР працэс міграцыі не стрымліваўся дзяржаўнымі межамі і нават заахвочваўся ўрадам як неабходная ўмова стварэньня "новай грамадзкай супольнасьці" — савецкі народ. Шматлікія будоўлі пяцігодак сталіся этапамі працэсу зьмешваньня (зьліцьця) нацыяў на глебе стварэньня адзінага гаспадарчага дзяржаўнага комплексу. За час існаваньня савецкай дзяржавы, у выніку эканамічнай міграцыі, Беларусь пакінулі звыш 1,5 мільёна чалавек, і больш за 1,2 мільёна людзей розных нацыянальнасьцяў прыехалі на працу і сталае жыхарства ў Беларусь.

Найбольш актыўны ўплыў на карэнны этнас Беларусі, у гэтай сытуацыі, аказалі народы суседніх Расеі і Ўкраіны. Натуральна, што беларускі этнас з уласнымі адметнымі культурна-псыхалагічнымі рысамі таксама ўплываў на суседнія савецкія рэспублікі. Але Беларусь адчула з боку суседзяў больш моцны этнічны ўціск, паколькі яна найменшая па колькасьці насельніцтва. Яна саступае па гэтаму паказчыку Ўкраіне прыкладна ў 5 разоў, Расеі прыкладна ў 14-15 разоў. Трэба ўлічваць, што мэтанакіраванае фармаваньне "новай грамадзкай супольнасьці" адбывалася вакол сыстэмы новых духоўных каштоўнасьцяў (сьцяг, традыцыі, гісторыя і г. д. ). Замацаваньне гэтых новых каштоўнасьцяў у сьвядомасьці насельніцтва рабілася на глебе шырокага распаўсюджваньня расейскай мовы як агульнасавецкай. Усе гэтыя абставіны стварэньня агульнасаюзнага гаспадарчага камплексу і стварэньня савецкага народу вызначалі шырокае распаўсюджваньне расейскай мовы ня толькі ў Беларусі, але таксама на Украіне. Шырока распаўсюдзіліся таксама іншыя элементы савецкай культуры: адносіны ў штодзённым побыце, сьветапогляд, песенная культура і г. д. Адбывался інтэнсыўная ўніфікацыя працы, побыту, мовы перш за ўсё паміж этнічна блізкімі расейскім, украінскім і беларускім народамі.

Пасьля банкруцтва савецкай сацыяльна-эканамічнай сыстэмы, СССР распаўся на сувэрэнныя дзяржавы. Але карэнныя этнасы ў славянскіх рэспубліках ужо ў поўнай ступені былі разбураныя. Найбольш значны працэнт насельніцтва страціў асноўныя этнічныя прыкметы на Беларусі (мова, культура паводзін, звычаі, нацыянальная самаіндэнтыфікацыя). Зараз у новых краінах аб'ектыўна (альбо ў межах афіцыйнай палітыкі, альбо незалежна ад яе) адбываюцца два разнаякасныя, але непарыўна ўзаемазвязаныя працэсы: стварэньне нацыянальнага гаспадарчага комплексу (нацыянальнай мадэлі эканомікі); фармаваньне фактычна новай этнічнай супольнасьці, але на падставе старых (традыцыйных) духоўных каштоўнасьцяў. Што тычыцца апошняга, то падобныя працэсы адбываюцца зараз, з рознай інтэнсыўнасьцю, амаль ва ўсім сьвеце. Пад уплывам актыўнай міграцыі рабочай сілы традыцыйна "белыя" нацыі краін заходняй Эўропы даволі хутка зьмяняюць колер, успрымаючы моцныя этнічныя хвалі з Афрыкі і Азіі. Гэтыя хвалі прыносяць і новыя культурныя адметнасьці і нават новыя элементы мовы, але ўсюды безумоўнай падставай этнічнай трансфармацыі зьяўляецца карэнны этнас з яго культурай і мовай. Прыкладна так адбываецца зараз у Расеі і Ўкраіне. У Беларусі працяканьне гэтага працэсу значна больш праблематычна, бо носьбіты этнічных прыкмет беларускай нацыі складаюць выразную меншасьць насельніцтва краіны (па папярэдніх падліках 22%-25%). Значная большасьць астатняга насельніцтва фактычна не вызначылася ў сэньсе этнічнай самаіндэнфікацыіі і мае схільнасьць да працягу працэсу стварэньня "новай этнічнай супольнасьці" савецкі народ, што зараз абсалютна не рэальна, паколькі этнічная тэрыторыя гэтай супольнасьці, яе гаспадарчы комплекс разбураны, яе духоўныя каштоўнасьці дыскрэдытаваныя і згубленыя. У выніку эканамічны крызіс у Беларусі, які паглыбіўся апошнім часам, можа дапоўніцца крызісам этнічным, праявай якога стане далейшае зьмяншэньне ў складзе насельніцтва краіны колькасьці людзей-носьбітаў этнічна-культурных прыкмет беларусаў і росту колькасьці людзей (абсалютна і адносна) без пэўных нацыянальных прыкметаў.

За пэрыяд з 1990 да 1997 гг. у Беларусь прыехалі на сталае жыхарства 328684 чалавекі з так званага бліжняга замежжа пераважна небеларускай нацыянальнасьці. Такім чынам, міграцыйны фактар у пастсавецкі пэрыяд па ранейшаму спрыяе скарачэньню сфэры ўплыву нацыянальнай культуры і мовы ў Беларусі.

Такім чынам натуральны працэс аднаўленьня нацыі, які непазьбежна адбываецца разам з аднаўленьнем дзяржавы, набыў у Беларусі супярэчлівы і ў пэўным сэньсе нелягічны характар. Гэтая супярэчлівасьць і няпэўнасьць зрабіла адбітак і на працэс разьвіцьця нацыянальнай эканомікі, рост якой у 1997 і 1998 гадох адбываўся паралельна са зьніжэньнем узроўню жыцьця насельніцтва. Адзначаныя факты нагадваюць шырока вядомую думку, што ўздым нацыянальнай эканомікі магчымы толькі ва ўмовах аб'яднаньня нацыі вакол нацыянальных духоўных каштоўнасьцяў. І ў гэтай сытуацыі этнічнае паходжаньне грамадзян фактычна не мае істотнага значэньня. На першы плян выходзіць нацыянальная самаіндэфікацыя ў выглядзе прызнаньня духоўных каштоўнасьцяў Беларусі (гісторыі, мовы, сімвалаў) як уласных.

На наш погляд важную ролю ў сучасных культурна-этнічных і эканамічных працэсах мусіць адыграць беларуская дыяспара ў так званым далёкім замежжы, перш за ўсё ў разьвітых краінах рынкавай эканомікі. Зварот іх выдатных прадстаўнікоў у Беларусь мог-бы зрабіць вельмі станоўчы ўплыў на ўзгаданыя вышэй працэсы. У адрозьненьні ад большасьці павяртанцаў-беларусаў з краінаў СНД, беларусы з Захаду захавалі мову, традыцыі, звычаі свайго народу, да таго-ж зьяўляюцца носьбітамі прынцыпаў дэмакратычнага рынкавага грамадзтва. Удзел беларусаў заходняй дыяспары ў сёняшнім культурна-палітычным і эканамічным жыцьці грамадзтва сучаснай Беларусі безумоўна адыграў-бы вялікую станоўчую ролю ў культурна-этнічным працэсе стварэньня новай беларускай нацыі і нацыянальнай гаспадарчай сыстэмы.

Такім чынам міграцыя рабочай сілы была і застанецца важным фактарам культурна-этнічных эканамічных працэсаў у Беларусі. Разам з тым у гэтых працэсах можа істотна ўзрасьці роля беларускай дыяспары ў замежжы.